

"Каб усе былі адно" (Ян 17, 21)

# Царква

№ 2 (49), 2006
29 чэрвеня

СЬВЯТА АПОСТАЛАЎ ПЯТРА І ПАЎЛА

## Дух Сьвяты будуе Царкву

**• У Дзень Сьвятога Духа па юльянскім календары ў Івана-Франкоўску Ўладыка Сафрон Мудры высьвяціў для БГКЦ двух новых дыяканаў – Андрэя Буйніча і Алеся Шаўцова.**





*• Бары (Італія), манастыр аа. дамініканаў. 19.02.2006. Праваслаўны Мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт і Архім. Сяргей (Гаек) разам з міжканфесійнай групай удзельнікаў экуменічнай канферэнцыі. (Гл. на гэтую тэму матэрыял на с.15: "Экуменічная сустрэча пад патранатам сьв. Мікалая").*

*"Місія, даручаная Грэка-Каталіцкай Царкве ў поўнай сулучнасьці з Пятром, зьяўляецца падвойнай: яе заданьне, з аднога боку, – у бачны спосаб зьберагаць у Каталіцкай Царкве ўсходнюю традыцыю; з іншага боку – спрыяць сустрэчы розных традыцыяў, і пры гэтым сьведчыць ня толькі іх узаемную суадказнасьць, але і глыбокую еднасьць у разнастайнасьці."*

З Ліста Сьвятога Айца Бенядыкта XVI з нагоды Львоўскага псеўдасабору 1946 году, 22.02.2006.

## У нумары:



• 12.06.2006. Івана-Франкоўск, царква Раства Хрыстова. Айцец дыякан Алесь Шаўцоў дзякуе Біскупу Сафрону Мудраму за ўдзяленьне дыяканскіх сьвячаньняў.

# Дні БГКЦ у Стрыі

**Дні Беларускай Царквы праходзілі 3-4 чэрвеня 2006 году ў Стрыйскай япархіі УГКЦ. Два дні стрыяне мелі нагоду бліжэй пазнаёміцца з беларускімі грэка-католікамі Віцебска і Полацка. Нядзельная Літургія ў Катэдральным храме Ўсьпеньня Найсьвятой Багародзіцы г.Стрыя правілася па-беларуску. У склад дэлегацыі з Беларусі ўваходзілі сьвятары, семінарысты, гісторыкі ды ўдзельнікі квартэту сярэднявечнай беларускай рэлігійнай музыкі.**

Афіцыйнае знаёмства з гасьцямі распачалося ў суботу на Вячэрні. Прысутныя ў храме напэўна ўпершыню пачулі пра гісторыю Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. Як вядома, у сьнежні мінулага году БГКЦ адзначала 15-годдзе аднаўленьня афіцыйнай душпастырскай дзейнасьці ў Беларусі. Далейшае знаёмства з беларусамі адбывалася ў сем'ях стрыянаў, у чыіх дамах госьці пражывалі два дні.

Чарговая сустрэча з жыхарамі Стрыя адбылася ў нядзелю, 4 чэрвеня 2006 году. Боскую Літургію а 9-й гадз. узначаліў а. Лявонці Тумоўскі, кіраўнік беларускай дэлегацыі, які душпастырые ў Полацку. Маліцца па-беларуску яму дапамагаў хор грэка-каталіцкай парафіі гораду Віцебску. Госьці з Беларусі таксама пакінулі свой дар для Катэдральнага храму – ікону Сьвятамучаніка Язафата. Яе напісаў беларускі іканапісец Міхась Кускоў.

На заканчэньне свайго знаходжаньня ў Стрыі госьці з Беларусі правялі Ўрачыстую акадэмію ў Народным доме г. Стрый. Акадэмію адкрыў а. Зьміцер Грышан, які апякуецца грэка-католікамі ў Віцебску. Затым гісторыкі Міхась Баўтовіч і Яўген Усошын зачыталі рэфераты пра гісторыю і сучасны стан Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. Канцэртную праграму Акадэміі ўзбагаціў квартэт сярэднявечнай беларускай рэлігійнай музыкі.

**а. Паўло ХУД,**
*прэс-сакратар Стрыйскай япархіі УГКЦ*



• Беларускія грэка-католікі з Уладыкам Сафронам (Мудрым) і нававысьвячанымі дыяканамі А.Шаўцовым (крайні справа) і А.Буйнічам (поруч з айцом А.Абламейкам).

# Дыяканскія сьвячаньні ў Івана-Франкоўску

**У панядзелак, 12 чэрвеня 2006 году, у другі дзень Урачыстасьці Сьвятой Тройцы – Дзень Сьвятога Духа (паводле юльянскага календара), дыяканскія сьвячаньні ў Івана-Франкоўску атрымалі беларускія грэка-католікі Андрэй Буйніч з Менску – выпускнік Вышэйшай Духоўнай Семінарыі ў Драгічыне (Польшча), магістр багаслоўя Папскага Тэалагічнага факультэту ў Варшаве) ды Аляксандр Шаўцоў з Горадні – выпускнік Вышэйшай Духоўнай Семінарыі ў Івана-Франкоўску, магістр Івана-Франкоўскай Тэалагічнай Акадэміі.**

За згодай Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыта Сяргея (Гаека) і з блаславеньня Івана-Франкоўскага епархіяльнага біскупа Ўладыкі Ўладзіміра Війтышына сьвячаньні дыяканату кандыдатам з Беларусі ўдзяліў Уладыка Сафрон Мудры, на дадзены момант біскуп на пенсіі. Прадстаўніком Апостальскага Візітатара на гэтай урачыстасьці, што адбывалася ў царкве Раства Хрыстова, быў айцец протапрасьвітар Андрэй Абламейка, прэфект семінарыстаў БГКЦ.

На Боскай Літургіі сьпяваў івана-франкоўскі моладзевы хор "Гасанна", які ўжо шмат разоў бываў у Беларусі і які ахвотна дапамагае парафіям БГКЦ. На сьвячаньнях за будучых дыяканаў БГКЦ малілася таксама група беларускіх вернікаў з парафіяў Менску, Горадні, Магілёву і Івацэвічаў.

*Навадыяканам Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы жадаем Божага блаславеньня на дарозе іхняга служэньня Царкве і Народу.*



• Адно з першых дыяканскіх служэньняў А.Буйніча і А.Шаўцова падчас водпуставага сьвята ва ўніяцкай парафіі ў Кастамлотах.

# Сьвята Падляшскіх Мучанікаў у Кастамлотах

***У нядзелю 18 чэрвеня 2006 году ў грэка-каталіцкай (неаўнійнай) парафіі ў Кастамлотах над Бугам, што ў Польшчы, праходзіла сьвята (водпуст) Блаславёных Падляшскіх Мучанікаў Пратулінскіх. У сьвяце ўдзельнічала і дэлегацыя Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.***

Боскую Літургію ўзначалілі Архім. Раман (Пентка) з Кастамлотаў і Архім. Сяргей (Гаек). Сярод сьвятароў, што саслужылі Літургію быў і а. Кірыла (Міронаў) з Масквы. Сьвяточнае казаньне гаварыў пробашч парафіі Пратулін а. Генрык Якубовіч.

Дыяканскае служэньне падчас водпуставае ўрачыстасьці мелі нядаўна высьвячаныя беларускія дыяканы – а. д-н Андрэй Буйніч з Менску і а. д-н Алесь Шаўцоў з Горадні *(на фотаздымках).*

У час працэсіі, якая адбывалася пасьля Літургіі побач іконы Пратулінскіх Мучанікаў, несьлі таксама іх мошчы ў прыгожым рэліквіяры. На заканчэньне працэсіі вернікі мелі выключную магчымасьць для ўшанаваньня сьвятых мошчаў уніяцкіх мучанікаў праз цалаваньне.



*• 18.06.2006, Кастамлоты (Польшча). Новавысьвячаныя дыяканы БГКЦ нясуць сьв. мошчы Пратулінскіх мучанікаў.*



*• Дыяканы падчас урачыстай Боскай Літургіі і на працэсіі.*





*• Дыякан з Беларусі Ігар Лабацэвіч і русінскі Ўладыка Джон Кудрык.*

# Грэка-каталіцкі сьвятар-беларус у Новым сьвеце

***У ЗША, у візантыйскай каталіцкай япархіі Парма, вось ужо паўгады служыць дыяканам 33-гадовы беларус Ігар Лабацэвіч. Пасьля Ўладыкі Ўладзіміра Тарасевіча, які памёр 20 гадоў таму, ён стаў першым беларускім каталіцкім сьвятаром візантыйскага абраду, які пасяліўся ў Амерыцы.***

Дыяканскія сьвячаньні Ігара Лабацэвіча адбыліся 27 сьнежня 2005 году. У грэка-каталіцкай катэдры сьв. Яна Хрысьціцеля, што ў горадзе Парма, яго рукапаклаў на дыякана адзін з біскупаў амерыканскіх русінаў – выхадцаў з Закарпацкай Русі – Уладыка Джон Кудрык.

У свой час Ігар Лабацэвіч атрымаў юрыдычную адукацыю ў Беларускім дзяржаўным унівэрсітэце ў Менску, затым распачаў філасофска-багаслоўскія студыі ў Місіянерскім Інстытуце ў Лондане (Вялікабрытанія), якія скончыў у 2003 годзе. З 1996 па 2005 год жыў і працаваў у Беларускай Каталіцкай Місіі ў Лондане пад кіраўніцтвам мітрафорнага протаярэя айца Аляксандра Надсана.

З лістападу 2005 году разам з жонкай Ксеніяй ён жыве ў штаце Агаё, у Кліўлендзе, дзе жыве шмат выхадцаў з Беларусі. У самім штаце Агаё заўважна прысутнасьць усходніх католікаў розных традыцыяў: ёсьць нямала парафіяў украінскіх грэка-католікаў, карпата-русінаў і румынаў візантыйскага абраду, а таксама маранітаў.

# "Стойце моцна ў веры!"

## Беларускія грэка-каталікі з Папам Бенядыктам XVI

25-26 траўня 2006 году беларускія грэка-каталікі пілігрымавалі ў Варшаву на сустрэчу з Папам Рымскім Яго Сьвятасьцю Бенядыктам XVI. З Менску ў Варшаву выехаў аўтобус з пілігрымамі, да якіх па дарозе далучыліся таксама больш за два дзясяткі вернікаў з Берасьцейшчыны на машынах і мікрааўтобусе. За групу і арганізацыю пілігрымкі быў адказны сп. Яўген Андросік. У аўтобусе з вернікамі маліліся семінарысты Алесь Шаўцоў і Яўген Усошын.

Пасьля пераезду мяжы пілігрымы завіталі на кароткі адпачынак у каталіцкую парафію славяна-візантыйскага абраду сьв. Велікамучаніка Мікіты, што ў Кастамалотах за Бугам, за 15 км ад Берасьця. Тут пілігрымы памаліліся ў старадаўняй драўлянай уніяцкай царкве, дзе захоўваюцца мошчы блаславёных уніяцкіх мучанікаў з Пратуліна. Парахам гэтае парафіі зьяўляецца марыянін Архімандрыт Раман (Пентка), вучань беларускага багаслова і душпастыра ў Харбіне і Лондане, вязьня савецкіх лагероў айца Тамаша Падзявы.

Ужо ў Кастамлотах выявілася, што большасьць з пілігрымаў упершыню патрапіла ў гэтую парафію, дзе цяпер санктуарыюм Падляшскіх мучанікаў. Гэты факт таксама спрычыніўся духоўнаму ўзрушэньню, якое натхніла і малітоўная атмасфера, што заўжды пануе ў Мікітаўскай царкве. Берасьцейскі душпастыр а. Ігар Кандрацьеў сказаў для пілігрымаў кароткае, глыбокае па сваім зьмесьце слова, узгадваючы Яна Паўла II і падкрэсьліваючы, што Бенядыкт XVI працягвае па-сутнасьці яго місію – місію Пятровага служэньня Царкве. У той жа позьні вечар (каля 23-й гадзіны) пілігрымы выехалі ў Варшаву і апынуліся на варшаўскім паркінгу раніцай а 4-й гадзіне. Пасьля кароткага перапынку, ужо пешкі, яны вырушылі на плошчу Пілсудзкага, што ў цэнтры польскай сталіцы, на сустрэчу з Папам.

На плошчы Пілсудзкага было дзьве тысячы беларускіх вернікаў, што падкрэсьліў каментатар сустрэчы. Надвор'е, на жаль, не спрыяла пілігрымам: распачаўся дождж, які йшоў перад і ў часе сьв. Імшы, а скончыўся, калі вернікі пачалі падыходзіць да сьв. Прычасьця. Нягледзячы на дождж, вернікі цешыліся, што разам з імі ёсьць Першаярарх Каталіцкай Царквы і радасна віталі Яго разам з сотнямі тысячаў палякаў.



• 26.05.2006. Сьвятая Імша ў Варшаве, падчас якой гучала малітва таксама і па-беларуску.



• Варшава, 26.05.2006. Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI нечакана для аховы пайшоў у натоўп, каб блаславіць шматлікіх пілігрымаў.

Сваю гамілію Бенядыкт XVI распачаў словамі Яна Паўла II і прыгадаў усім прысутным пра тое, што менавіта на гэтай плошчы яго вялікі Папярэднік сказаў знакамітыя словы малітвы: "Няхай сыйдзе Дух Твой і адновіць аблічча зямлі! Гэтай зямлі!" Сьвяты Айцец падкрэсьліў, што яшчэ ў часе пантыфікату Яна Паўла II адбылася зьмена палітычнай, эканамічнай і сацыяльнай сыстэмы і што трэба дзякаваць Богу за гэтыя вялікія справы, якія ўчыніў наш Госпад.

Сэрцам гаміліі былі разважаньні пра тры вымярэньні веры: вера і праўда, вера і любоў, вера і Божыя прыказаньні. У такім кантэксьце Бенядыкт XVI падкрэсьліў, што, як у мінулыя стагоддзі, так і сёньня, ёсьць асобы і асяродкі, якія хацелі б выкінуць з Евангельля тыя праўды, што, як ім здаецца, не пасуюць сучаснаму чалавеку. На гэта Папа сказаў: "Мы ня можам паддацца спакусе рэлятывізму або суб'ектыўнай і селектыўнай інтэрпрэтацыі Сьвятога Пісаньня. Толькі ўся праўда дазволіць нам прыйсьці да Хрыста, Які памёр і ўваскрос дзеля нашага збаўленьня". Папа прыгадаў, што Бог нас палюбіў і памёр за нас, "калі мы былі яшчэ грэшнікамі" (*Рым 5, 8; пар. 1 Ян 4, 11*), што наша любоў – гэта адказ на любоў Бога, якая зьдзяйсьняецца чалавекам праз асабістыя адносіны з Хрыстом і застаецца вернай яму таксама ў гадзіне выпрабаваньня. Сьвяты Айцец яшчэ раз прыпатаваў вернікам словы Ісуса з евангельскага урыўку, што чытаўся ў часе Імшы: "Калі любіце мяне, будзеце захоўваць мае прыказаньні" *(Ян 14, 15)* і таксама зьвярнуў увагу на тое, што выкананьне гэтых прыказаньняў вымагае адмаўленьня ад усяго таго, што перакрэсьлівае любоў Хрыста. Адначасова Папа падкрэсьліў, што Ісус даў Закону новую матывацыю: трэба захоўваць дзесяць прыказаньняў з-за любові да Бога і бліжняга, а не з-за страху перад пакараньнем. Уся гамілія, асабліва яе заканчэньне, была прасякнута заклікам "стаяць моцна ў веры"(Trwajcie mocni w wierze), пераказваць яго, ды сьведчыць аб ім.

Пасьля малітоўнай сустрэчы з Яго Сьвятасьцю Папам Бенядыктам XVI беларускія грэка-каталіцкія пілігрымы заехалі ў парафію Вясёлэ (прадмесьце Варшавы), дзе ў рэкалекцыйным цэнтры іх прымалі прадстаўнікі Супольнасьці "Chemin Neuf" ("Новая Дарога"). Там, падчас адмысловай службы, Апостальскі Візітатар архімандрыт Сяргей (Гаек) паставіў у іпадыяканы семінарыстаў шостага курсу Андрэя Буйніча *(праз два тыдні ён стаў ужо дыяканам – заўв. Рэдакцыі)* і Яўгена Усошына. Нядоўгі побыт у Вясёлай скончыўся абедам, пасьля якога пілігрымы вярнуліся ў Беларусь.

Трэба адзначыць, што ў той час, калі для большасьці нашых пілігрымаў пілігрымка ўжо скончылася, то для Сьвятога Айца яна яшчэ працягвалася: у той самы дзень Бенядыкт XVI на верталёце прыляцеў у Чэнстахову на Ясную Гару. Папа прыбыў туды, каб памаліцца перад цудатворнай іконай Маці Божай Чэнстахоўскай, а таксама каб сустрэцца з прадстаўнікамі манаскіх ордэнаў, апостальскіх супольнасьцяў і рухаў сьвецкіх каталікаў. У сваёй прамове там Папа ўказаў на Божую Маці, як на прыклад веры ды малітвы. Усіх заклікаў ён словамі: "Будзьце Яе вучнямі!". Таксама Папа сказаў, што Найсьвятая Багародзіца вучыць нас малітве, вучыць, "як адкрываць розумы ды сэрцы на моц Сьвятога Духа, што прыходзіць да нас". "Дзева Марыя падтрымлівала веру Пятра і апосталаў у вячэрніку, а сёньня падтрымлівае Яна маю і вашую веру,"– дадаў Папа. Ён тлумачыў: "Вера прысутнічае ня толькі ў настроях і рэлігійных перажываньнях, але перад усім у мысьленьні і дзейнасьці, у штодзённай працы, у змаганьні з самім сабой, у супольным жыцьці і ў апостальстве. Бо вера робіць так, што нашае жыцьцё прасякнутае моцай самага Бога".

⇨

## ЭКУМЕНІЧНАЯ СУСТРЭЧА Ў ВАРШАВЕ

***Сярод шматлікіх і разнастайных сустрэчаў Бенядыкта XVI асаблівай увагі заслугоўвае экуменічнае багаслужэньне, якое адбылося ў Варшаве ў лютэранскай царкве Сьвятой Тройцы. У малітоўнай экуменічнай сустрэчы прынялі ўдзел прадстаўнікі сямі Цэркваў, а агулам на яе сабраліся больш чым 800 асобаў.***

Каля дзьвярэй лютэранскай кірхі Папу прывітаў праваслаўны Уладыка Ярэмія, галава Польскай Экуменічнай Рады, а таксама біскуп Януш Ягуцкі, галава лютэранскай Царквы ў Польшчы.

Падчас сустрэчы Папа падкрэсьліў, што сваім служэньнем хоча наблізіць «поўную і бачную еднасьць хрысьціянаў». Адначасова Пантыфік падкрэсьліў, што «мы ня ў стане зьдзейсьніць еднасьць уласнымі намаганьнямі», бо ёсьць яна перадусім справай Сьвятога Духа. У сваёй гаміліі Сьвяты Айцец нагадаў пра дакумент, які датычыць зьмяшаных сужэнстваў. Паводле яго словаў, сужэнствы, у якіх муж і жонка належаць да розных Цэркваў, могуць быць «лабараторыяй еднасьці». Дадаў таксама, што гэта вымагае ўзаемнай зычлівасьці і разуменьня, як з аднаго, так і з другога боку.

На заканчэньне сустрэчы Бенядыкт XVI атрымаў ад Польскай Экуменічнай Рады ў дар ікону, напісаную сьпецыяльна для яго. Гэта ікона Пантакратара, Які трымае Евангельле, адкрытае на словах: «Ніхто не прыходзіць да Айца, як толькі цераз Мяне» *(Ян 14, 6)*. Гэтай іконай Рымскі Архірэй разам з праваслаўным біскупам Ярэміяй паблаславілі прысутных.

*• Варшава, 26.06.2006. Бенядыкт XVI прымае ад праваслаўнага біскупа Ярэміі ікону – дар Польскай Экуменічнай Рады.*

**Андрэй БУЙНІЧ**



*• 28.05.2006 Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI наведаў былы канцлагер Аўшвіц-Біркенаў. Разважаньне над гэтай трагедыяй чалавецтва, малітва за дзясяткі тысячаў бязьвінных ахвяраў фашызму і сустрэча з былымі вязьнямі канцлагеру сталі самым няпростым і балючым момантам у часе пілігрымкі Сьвятога Айца ў Польшчу.*

## БЕНЯДЫКТ XVI НАВЕДАЎ АСЬВЕНЦІМ

***У другой палове дня, у нядзелю 28 траўня 2006 г., Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI наведаў самы вялікі гітлераўскі канцэнтрацыйны лагер, які знаходзіцца за 70 кіламетраў ад Кракава, у Асьвенціме – "Аўшвіц-Біркенаў".***

Наведваньне былога канцлагеру ў Асьвенціме было адным з самых важных пунктаў першага пастырскага візіту Папы-немца ў Польшчу. Яшчэ ў Рыме Бенядыкт XVI паведаміў, што ня будзе заязджаць у Асьвенцім на машыне. "Сюды трэба заходзіць пешкі, схіліўшы галаву",– сказаў тады Папа.

Моўчкі прайшоўшы па месцы страшных пакутаў і сьмерці дзясяткаў тысячаў нявінных людзей, Бенядыкт XVI узьнёс малітву за ўсіх, хто загінуў у гэтым нацысцкім канцлагеры, а таксама сустрэўся з некалькімі былымі вязьнямі «Аўшвіц-Біркенаў».

Выступіўшы пасьля з кароткаю прамоваю, Сьвяты Айцец сказаў: "У такім месцы, як гэтае, не хапае словаў. Божа, чаму Ты маўчаў? Чаму гэта дазволіў?". Бенядыкт XVI таксама з пакораю прызнаўся, што яму – Папу, які паходзіць з Германіі, – "выключна цяжка прамаўляць у такім трагічным месцы". "У гэтай цішыні мы схіляем галовы перад незьлічонаю колькасьцю людзей, якія тут пакутавалі і былі зьнішчаныя. Гэтая цішыня зьяўляецца моцным заклікам да прабачэньня і прымірэньня; малітваю, каб такое больш ніколі не паўтарылася",– дадаў Сьвяты Айцец.

Працягваючы прамову, ён адзначыў, што "Ян Павел II быў тут як сын польскага народу. Я прыйшоў сюды як сын нямецкага народу і таму павінен і магу паўтарыць за сваім Папярэднікам: я ня мог не прыйсьці сюды. Я павінен быў сюды прыйсьці". Візіт у гітлераўскі канцлагер – гэта "абавязак у імя праўды, у імя тых, хто тут пакутаваў, абавязак у імя Госпада".

*Catholic.By*

Акрамя Варшавы і Чэнстаховы Папа Бенядыкт XVI 26-28 траўня 2006 году наведваў Кракаў, Кальварыю Зэбжыдоўскую і Вадовіцы – малую радзіму свайго папярэдніка Яна Паўла II, дзе яго горача вітала моладзь. У Кракаве з Папам мелі магчымасьць сустрэцца таксама і некаторыя беларускія грэка-каталікі. Апошнім, самым цяжкім і вельмі важным пунктам яго візіту ў Польшчу стала наведваньне былога фашысцкага канцлагеру Аўшвіц-Біркенаў, што ў Асьвенціме.

Без сумніву, прыезд Пераемніка Апостала Пятра ўмацаваў у веры ўсіх беларускіх католікаў. Няхай жа сустрэча з Пятром нашых часоў натхніць нас на малітву аб тым, каб і ў нашай краіне ён змог паўтарыць словы свайго Папярэдніка: *"Няхай сыйдзе Дух Твой і адновіць аблічча зямлі! Гэтай зямлі!"*

**Андрэй БУЙНІЧ**, *г. Менск*

## НОВЫ ДЗЯРЖСАКРАТАР ВАТЫКАНУ

***Новым дзяржаўным сакратаром Ватыкану стаў італійскі кардынал Тарчызіо Бертоне, які да цяперашняга часу займаў пасаду архібіскупа Генуі.***

Прызначэньне Бертонэ на пасаду кіраўніка Рымскай курыі было падпісана Папам Бенядыктам XVI раней, аднак афіцыйнае паведамленьне Ватыкан распаўсюдзіў толькі 22 чэрвеня 2006 году.

Тарчызія Бертонэ – доктар кананічнага права. Больш за 20 гадоў выкладаў у найбольш аўтарытэтных навучальных установах Ватыкану, у 1989 г. быў абраны рэктарам Папскага Салезіянскага ўніверсітэту. У чэрвені 1995 году ён быў прызначаны сакратаром Кангрэгацыі навукі веры, якую многія гады ўзначальваў кардынал Ёзаф Рацынгер. У кастрычніку 2003 году Папа Ян Павел II узьвёў Бертонэ ў годнасьць кардынала. 71-гадовы кардынал Бертонэ замяніў на пасадзе кіраўніка ватыканскага ўраду кардынала Анджэла Садана, які знаходзіўся на гэтай пасадзе з 1990 году.

Незадоўга да гэтага прашэньне аб адстаўцы на імя Папы падаў таксама і кіраўнік Прэс-службы Апостальскай Сталіцы Хаакін Навара-Вальс, які вось ужо 22 гады як займае пасаду папскага прэс-сакратара.

*Паводле AGNUZ*

***Прапануем увазе чытачоў газеты «Царква» тэкст Пасланьня Сіноду Біскупаў Кіева-Галіцкага Вярхоўнага Архібіскупства да духавенства, манаства і сьвецкіх вернікаў УГКЦ і да ўсіх людзей добрай волі з нагоды 60-й гадавіны Львоўскага псеўдасабору 1946 году.***

***Гэтае пасланьне пабачыла сьвет у Кіеве, 7 сакавіка 2006 году і падаецца важным і актуальным, бо праблемы, закранутыя ў ім, выходзяць за рамкі выключна ўкраінскіх праблемаў. Вось чаму ярархі Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы прапануюць глыбока задумацца над гэтай трагічнай датай ня толькі сваіх вернікаў, але і ўсіх людзей добрае волі. Яны ўзгадваюць і даюць ацэнку ня толькі падзеям 60-гадовае даўніны і іх наступствам, але і сягаюць у сваіх разважаньнях глыбей – да часоў Берасьцейскай уніі. Параўноўваючы гэтыя адлеглыя па часе, але моцна зьвязаныя між сабой падзеі, аўтары пасланьня прапануюць задумацца найперш над тым, якія высновы для сябе павінны вынесьці з іх сёньня хрысьціянскія Цэрквы, каб "забясьпечыць хрысьціянскі характар нашай будучыні".***

***Асаблівую ўвагу грэка-каталіцкія біскупы ўдзяляюць праблеме "уніятызму", пра які сёньня так шмат і па-рознаму гаворыцца як праваслаўнымі, так і каталікамі. Ярархі разважаюць аб тым, што ёсьць сапраўднае зьяднаньне хрысьціянаў, якімі шляхамі ісьці да яго, і што ёсьць еднасьць уяўная, якая ўрэшце аказваецца домам, пабудаваным на пяску.***

# ПАСЛАНЬНЕ

**Сіноду Біскупаў Кіева-Галіцкага Вярхоўнага Архібіскупства**

*да духавенства, манаства і сьвецкіх вернікаў Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы і да ўсіх людзей добрай волі*

## з нагоды 60-й гадавіны Львоўскага псеўдасабору 1946 году

*Мучанікі сьвятыя, што шмат пацярпелі і атрымалі вянец перамогі, маліцеся Госпаду за збаўленьне душ нашых...*

Гэтымі словамі трапара мы заклікаем сёньня душы тых, хто шэсьць дзесяцігоддзяў таму, у часы, калі скалынуліся самыя асновы чалавечай цывілізацыі, узялі на свае плечы цяжар вялікага духоўнага подзьвігу – зьберажэньня веры і ўратаваньня Царквы. Гэта быў час, калі зло, здавалася, стала ўсемагутным і заўзята кроіла карту сьвету, прагнучы стаць уладаром чалавечай гісторыі. Трэба было валодаць асабліва праніклівым духоўным зрокам, каб бачыць усю марнасьць гэтых высілкаў. Трэба было мець асаблівую "адвагу да Збаўцы", каб падчас вакханаліі зла верыць у пасхальнае ўваскрасеньне дабра. Мы заклікаем сёньня душы нашых слаўных мучанікаў, каб разам з імі вымаліць у Бога дар разуменьня й мудрасьці, каб здолець адказаць: *як павінна цяпер дзейнічаць Царква, якая так доўга ішла сваёй цярністай Крыжовай дарогай? Чаго чакае ад нас Госпад, Які ў сваім плане накрэсьліў нам такія дзіўныя і загадкавыя шляхі?*

Згадка пра Крыжовую дарогу ня проста звычайная хрысьціянская метафара. Адным з галоўных дароў, атрыманых ад Госпада нашай Царквой, зьяўляецца дар мучаніцтва за "зьяднаньне ўсіх". На гэтым Крыжовым шляху крывавымі вехамі адзначыліся, у прыватнасьці, тры сумна-памятныя гады – 1839-ы, 1875-ы і 1946-ы. Першая дата – скасаваньне уніі на Правабярэжнай Украіне і Беларусі, другая – яе зьнішчэньне на Холмшчыне і Падляшшы. Трэцяй вяхой было брутальнае руйнаваньне Грэка-Каталіцкай Царквы на тэрыторыі Усходняй Галічыны, якое мела працяг на Лемкаўшчыне і Надсяньні, Закарпацьці і Прэшаўшчыне. Апагеем і сымбалем гэтага апошняга перыяду стаў Львоўскі псеўдасабор, 60-ыя ўгодкі якога з сумам узгадваем гэтымі сакавіцкімі днямі.

З гэтае нагоды Сінод Біскупаў Кіева-Галіцкага Вярхоўнага Архібіскупства зьвяртаецца да вас, дарагія ў Хрысьце, з гэтым Пасланьнем, якім жадаем падштурхнуць да глыбокага асэнсаваньня і адкрытых дыскусіяў, грунтоўнага вывучэньня крыніцаў і багаслоўскіх рэфлексіяў над старонкамі нашага трагічнага і гераічнага мінулага, а таксама наўпрост заахвочваем увесь клір і сьвецкіх нашае Царквы, усіх братоў і сясьцёр нашых, далучыцца да гэтага малітоўнага роздуму і абмеркаваньня, падзяліцца сваімі меркаваньнямі, каб аб'яднаць нашыя высілкі ў такой важнай справе ацаленьня гістарычных ранаў і сумеснага хрысьціянскага сьведчаньня ў будучыні.

I

Львоўскі сход 1946 году мы называем псеўдасаборам, паколькі яго склікалі ва ўмовах жахлівага тэрору і правялі з недапушчальнымі парушэньнямі нормаў царкоўнага права і рэлігійных свабод чалавека. Яго сапраўдная мэта была такая ж, як і ўсіх папярэдніх "ліквідацый уніі": зьмяняліся ўлады, дзяржавы і гістарычныя эпохі, зьмяняліся пануючыя ідэалогіі, аднак не зьмянялася галоўнае – імкненьне выкрасьліць з быцьця Кіеўскай Царквы саму ідэю еднасьці з Рымскім Апостальскім Пасадам. Аднак змацаваная стагоддзямі еднасьць выстаяла, вытрымала ўсе выпрабаваньні і тым самым яшчэ раз пацьвердзіла справядлівасьць словаў Гамаліла: калі нейкая задума і нейкая справа ад Бога, то зруйнаваць яе немагчыма (пар. Дзеі 5, 38-39). Так мучаніцтва за "зьяднаньне ўсіх" – хоць усё яшчэ належна не ацэненае некаторымі нашымі субратамі ў веры – стала ці не найбольшым ахвярным дарам, які мы прыносім у скарбніцу Паўсюднае Царквы.

Як перажыла нашая Царква жахлівыя гады ганеньняў? На зьдзіўленьне ўсяму сьвету ня толькі духоўныя асобы, але і цэлыя пакаленьні хрысьціянскіх сем'яў сталі цьвярдынямі ў абароне веры і Царквы. У 2001 годзе падчас паломніцтва Слугі Божага Папы Яна Паўла II Паўсюдная Царква прылюдна вызнала гэты подзьвіг, абвясьціўшы блаславёнымі 27 сыноў і дочак Грэка-Каталіцкай Царквы. Акрамя гэтых, сёньня ўсім вядомых імёнаў, былі таксама сотні тысячаў невядомых нам пайменна мучанікаў за веру, якія аддалі сваё жыцьцё ў турмах і канцлагерах, а іх тленныя парэшткі спачылі ў вечнай мерзлаце Сібіры і Запаляр'я, у стэпах Казахстану і Сярэдняй Азіі. Адзін Бог ведае лік усім нашым мучанікам. А мы верым, што Хрыстос у дзень свайго слаўнага новага Прыйсьця явіць усім нам іх поўную колькасьць і веліч.

Цярновага вянка мучанікаў і вызнаўцаў удастоіліся ня ўсе дзеці Царквы, аднак і яны ўзялі на сябе яе цяжкі крыж. Тыя, каго абмінулі рэпрэсіі, спрабавалі на месцах, ва ўмовах падпольля й канспірацыі, падтрымліваць асяродкі духоўнага жыцьця. Прыватныя дамы станавіліся падпольнымі храмамі, хрысьціянскія сем'і – малымі супольнасьцямі. Па нядзелях людзі ўключалі Ватыканскае радыё, на хвалях якога неслася да іх Боская Літургія. Часам вернікі ўпотай адчынялі дзьверы храмаў, зачыненыя камуністычнай уладай, і там без сьвятара адпраўлялі набажэнствы. Вялікай падтрымкай для іх былі лісты-пасланьні мітрапаліта Ёсіфа (Сьліпога), якія ён праз давераных асобаў, насуперак неймаверным перашкодам, пасылаў з месцаў зьняволеньня. Выкарыстоўваючы рэдкія нагоды паслабленьня рэпрэсіяў, катакомбавая Царква паступова аднаўляла тое, што было неабходным для жыцьця і разьвіцьця: ставіла біскупаў, арганізоўвала падпольныя духоўныя семінарыі і манастыры. І калі ва ўмовах здабытай рэлігійнай свабоды наступіў час заявіць пра існаваньне нескаронае Царквы, менавіта гэтыя людзі выйшлі з галадоўкамі на маскоўскі Арбат, а пасьля панесьлі заявы на рэгістрацыю грэка-каталіцкіх грамадаў, зьдзіўляючы сьвет такой магутнай праявай сваёй аднадушнай волі.

Зразумела, што вузкія рамкі глыбокага падпольля не маглі ахапіць усіх верных. Частка грэка-каталікоў наведвала дзеючыя храмы. І хоць іх сьвятыні былі свавольна перададзеныя Расейскай Праваслаўнай Царкве (РПЦ), вернікі памяталі пра сваю прыналежнасьць да Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы (УГКЦ) і не пераставалі лічыць гэтыя храмы сваімі. Частка сьвятароў, з розных прычынаў не адважыўшыся чыніць супраціў дзяржаўнаму тэрору, вырашыла фармальна прыняць накінутае сталінскім рэжымам «казённае праваслаўе». Па-рознаму тлумачылі яны свае матывы: адны апраўдваліся вымушаным кампрамісам, дзякуючы якому атрымаецца захаваць хоць бы мінімальныя формы царкоўнага жыцьця, іншыя – боязьзю за лёсы блізкіх ім людзей. Няхай суддзёй ім будзе Госпад, які ведае сэрца кожнага чалавека і ўзважвае яго намеры. Царква высока ўшаноўвае ахвярнасьць сваіх дзяцей і слугаў, аднак ня можа вымагаць ад усіх мучаніцтва. А сёньня, калі крывавыя раны Львоўскага псеўдасабору паволі зацягваюцца, Царква тым больш заклікае да таго, аб чым яна моліць Бога вось ужо дзьве тысячы гадоў, а менавіта: прабачыць усім, хто воляй або няволяй абцяжарыў сваё сумленьне нейкай правінаю.

Віхура ўзбунтаванае гісторыі гнала грэка-каталікоў і па-за межы Украіны, за моры і акіяны, дзе яны знайшлі прытулак сярод украінскіх пасяленцаў, якія промыслам Божага провіду яшчэ ў пачатку XX стагоддзя арганізавалі там свае царкоўныя грамады і ерархічныя структуры. Не зважаючы на цяжкасьці перасяленьня і паваеннай разрухі, новая хваля эміграцыі істотна падмацавала наяўныя і разьвіла новыя асяродкі рэлігійнага і нацыянальнага жыцьця ўкраінцаў у Заходняй Еўропе, Аўстраліі, Паўночнай і Паўднёвай Амерыцы. Менавіта яны, перасяленцы розных пакаленьняў, сталі голасам вольнай і нескаронай Украіны і яе змушанай да маўчаньня Царквы. Дзякуючы гэтаму голасу сьвет пачуў, а шмат хто адназначна асудзіў несправядлівасьць Львоўскага псеўдасабору, падман якога быў відавочны на фоне дынамічнага разьвіцьця УГКЦ на эміграцыі.

Што да выгнанцаў усходняй дыяспары, то яны ва ўмовах савецкага таталітарызму не маглі практыкаваць сваю веру ў звыклых формах. Аднак памяць пра духоўныя сьвятыні роднага краю жыла ў іх сэрцах, а прыклад вернасьці сваёй Царкве і свайму пастырскаму пакліканьню пазбаўленых свабоды грэка-каталіцкіх біскупаў і сьвятароў зьберагаў іх веру жывой ды сеяў зерне евангельскага дабравешчаньня сярод тых, хто застаўся без свайго духоўнага кіраўніцтва або ніколі ня чуў Божага Слова. Спадзяемся, што цяпер Украінская Грэка-Каталіцкая Царква, пакупова развіўшы магчымасьці душпастырскай апекі і пасьлядоўна адстойваючы права на рэлігійную свабоду на ўсіх тэрыторыях былога Савецкага Саюза, зможа аднавіць сваю духоўную лучнасьць і належна паслужыць тым сваім вернікам, якія гэтага жадаюць. Пераканаўчым доказам наяўнасьці такога жаданьня зьяўляецца існаваньне ў Расеі і Казахстане царкоўных грамадаў, якія зьявіліся з натхнёнай ініцыятывы мясцовых грэка-каталікоў, часта насуперак нядобразычлівасьці іхняга атачэньня.

> **“У** *такой мадэлі еднасьці, якая мае назву “сулучнасьць Цэркваў-Сясьцёр”, ніхто не пачуваецца пакрыўджаным, паколькі ўласьцівая ёй сулучнасьць выяўляе Хрыстову Царкву як ікону Найсьвяцейшай Тройцы, еднасьць якой існуе ў разнастайнасьці сулучных Асобаў і выключае тыя або іншыя формы панаваньня або залежнасьці, гэта значыць уніятызму.* **”**
>
> *З Пасланьня Сіноду Біскупаў Кіева-Галіцкага Вярхоўнага Архібіскупства з нагоды 60-й гадавіны Львоўскага псеўдасабору 1946 году*

Так Царква, абвешчаная Львоўскім псеўдасаборам ліквідаванай, выстаяла ў перыяд перасьледу, арганізавалася ў падпольлі, спарадзіла наступныя пакаленьні царкоўнага кіраўніцтва і вернікаў, вярнулася на землі, дзе дзейнічала і была зьнішчаная некалькі стагоддзяў таму, пашырылася на новыя землі па-за межамі Украіны й дачакалася сьветлага сьвята Уваскрасеньня ў родным краі. Сёньня мы, дзякуючы многамiласэрнаму Госпаду, Які не пакінуў нас на гэтым цярністым шляху і вывеў з "дому няволі", вяртаемся ў думках у мінулае не для таго, каб дакараць за ўчыненыя крыўды, шукаць спагады або верадзіць гістарычныя раны. *Наша мэта – зразумець, якія высновы мы павінны зрабіць з досьведу гэтага мінулага, каб забясьпечыць хрысьціянскі характар нашай будучыні.*

II

**Л**ьвоўскі псеўдасабор 1946 году быў прыкладам брутальнага ўмяшаньня дзяржавы ў рэлігійнае жыцьцё людзей. Уся падрыхтоўка, падбор удзельнікаў, кіраўніцтва працай і рэалізацыя рашэньняў гэтага сходу зьдзяйсьняліся па ўказаньнях і пад прамым наглядам прадстаўнікоў улады і яе рэпрэсіўных органаў. Ні мітрапаліт, ні адзін біскуп нашай Царквы свайго блаславеньня на скліканьне сабору не даваў і ўдзелу ў ім ня браў. Наадварот, знаходзячыся ў зьняволеньні, ярархія УГКЦ гэты псеўдасабор і яго пастановы адназначна зганіла, а сваім жыцьцём і сьмерцю – аспрэчыла. Зрэшты, ніхто з грэка-каталікоў ніколі і ня меў сумневу ў яго кананічнай нелегітымнасьці. Нават нашыя праваслаўныя браты і сёстры ў глыбіні душы напэўна не сумняваюцца ў непраўдзівасьці гэтага сходу. Яны пабойваюцца ня так вызнаньня самога факту, што дзяржава зьвярнулася да ўжываньня тэрору і іх Царквы – у якасьці прылады, як наступстваў гэтага вызнаньня для іх саміх.

Бо спачатку здавалася, што сумеснымі высілкамі партыйнага кіраўніцтва, уладных структураў, органаў дзяржбясьпекі і праваслаўнай ярархіі "уніяцкае пытаньне" і на самой справе вырашана канчаткова. Уяўная "вечнасьць" савецкай улады наўпрост прадугледжвала "бясконцасьць" забароны УГКЦ. Афіцыйная Расейская Праваслаўная Царква, што набыла кантроль над грэка-каталіцкімі храмамі, нямала скарысталa ў кадравым і эканамічным плане, ды яшчэ й фармальна ўдвая павялічыла колькасьць сваіх парафіяў. Так званая "ўсходняя палітыка" Ватыкану, творцы якой настойліва намагаліся падтрымліваць дыялог з Масквой дзеля ўзаемнага збліжэньня, паразуменьня і эвентуальнага паяднаньня, ня толькі не прынесла жаданага выніку, але й наўпрост спрыяла ўмацаваньню пераканацьня, што справу уніі атрымаецца зьвесьці на нішто ва ўсім хрысьціянскім сьвеце.

І раптам напрыканцы 1980-х гадоў Савецкая дзяржава – гэтая найноўшая Вавілонская вежа – павалілася. Разам з дэмакратызацыяй грамадзкага жыцьця і аднаўленьнем рэлігійных свабод распаўся і штучна сканструяваны бязбожнай уладай маналіт «казённага праваслаўя». Мільёны грэка-каталіцкіх вернікаў, крывадушна прыпісаных да РПЦ, і шматлікія сьвятары, выхаваныя ў праваслаўных духоўных установах і нават высьвячаныя праваслаўнымі, узгадалі пра сваё паходжаньне і вярнуліся ва ўлоньне сваёй Царквы. Шлях да царкоўнае "еднасьці", пракладзены багнетамі энкавэдыстаў, стаў шляхам у тупік, а такое "ўзьяднаньне" – домам, пабудаваным на пяску *(пар. Мц. 7, 26).* Бог у сваёй неспасьцігальнай мудрасьці нібы вярнуў усё на свае месцы, каб мы, перажыўшы такі драматычны досьвед, зноў задаліся пытаньнем: *якой жа дарогаю нам ісьці да сапраўднага яднаньня ў Госпадзе?*

Памяць пра крыўду Львоўскага псеўдасабору і пра ахвяры, з ім зьвязаныя, дае нам першы, вельмі істотны, адказ на гэтае пытаньне: годнае, сапраўды хрысьціянскае разьвязаньне праблемы царкоўнай еднасьці нельга знайсьці з ужываньнем якога б то ні было гвалту – дзяржаўнага або групавога ("Хто мечам ваюе, ад мяча й загіне"). Трагічныя наступствы прычыненага зла яшчэ і дагэтуль атручваюць атмасферу і робяць немагчымым не толькі паяднаньне, але й нават элементарнае суіснаваньне і хоць бы нейкае паразуменьне. Бо, з аднаго боку, тыя, што былі пакрыўджаныя, маючы ўсе падставы дамагацца справядлівасьці, лёгка паддаюцца спакусе дзейнічаць не па хрысьціянскім, а па старазапаветным прынцыпе: "вока за вока, зуб за зуб". А, з іншага боку, нежаданьне вызнаць гэты грэх не дазваляе тым, хто абцяжараны ім, высьвятліць праўду і ачысьціць сваё сумленьне.

Іншы, ня менш важны адказ можа даць нам параўнаньне падзеяў 60-гадовай даўніны ды іх наступстваў з тым, што сталася больш за 400 гадоў таму падчас падпісаньня Берасьцейскай уніі. Бо ў канфесійнай праваслаўнай сьвядомасьці ўстойліва замацаваўся стэрэатып, які масава тыражуецца й сёньня, што паяднаньне ў Берасьці было "каталіцкім празелітызмам", "гвалтоўным апалячваньнем", "здрадай праваслаўя" і таму падобнае. Вось жа і правядзеньне Львоўскага псеўдасабору ярархія Расейскай Праваслаўнай Царквы ва ўнісон з афіцыйнай савецкай прапагандай апраўдвала неабходнасьцю "ліквідацыі наступстваў" Берасьцейскай уніі ды "вяртаньня ўніятаў ва ўлоньне Цэрквы-маці", гэта значыць Маскоўскага патрыярхату, да якога ні самі грэка-каталікі, ні іх гістарычныя папярэднікі ніколі не належылі. Распаўсюджваньню неадэкватнай ацэнкі паяднаўчага акту ў Берасьці паслужылі ня толькі нашыя нядобразычліўцы на Усходзе, але й некаторыя экуменічныя асяродкі на Захадзе, якія несправядліва накінулі яму кляймо "уніятызму", выстаўляючы і саму унію, і Царкву, што вырасла з яе, ледзь ці не галоўнай перашкодай на шляху да аб'яднаньня ўсіх хрысьціянаў.

Магчыма, галоўнай прычынаю такой негатыўнай пазіцыі ёсьць тое, што акт паяднаньня Кіеўскай мітраполіі з Рымскім Апостальскім Пасадам яго апаненты разглядаюць або толькі з нецаркоўных, палітычных пазіцый, або з анамальнай персьпектывы сучаснага канфесійнага падзелу ды гарачкавага жаданьня "дамовіцца" пра яго пераадоленьне. У той жа час разгляд гэтай падзеі ў кантэксьце гістарычнага разьвіцьця і канкрэтных абставінаў месца і часу напэўна дазволіў бы ўбачыць у ёй іншыя, вельмі пазітыўныя, а нават і павучальныя асьпекты.

Працяг на с.8 ⇨

# ПАСЛАНЬНЕ
## з нагоды 60-й гадавіны Львоўскага псеўдасабору 1946 году

⇨ Заканчэньне са с.6-7

Бо ў Берасьці, сьведамы сваёй памеснасьці і эклезіяльнае годнасьці епіскапат Кіеўскай Царквы, якая на працягу стагоддзяў зьберагала памяць пра непадзельнасьць Хрыстовага Цела ды стала апелявала да аднаўленьня ўсяленскай еднасьці, добраахвотна прыняў сінадальнае рашэньне аднавіць сулучнасьць з Лацінскай Царквой-Сястрой і вызнаць Біскупа Рыму як пераемніка сьв. апостала Пятра пры ўмове захаваньня ўсёй сваёй літургічна-абрадавай, кананічна-прававой і духоўна-культурнай спадчыны. Важным стымулам для падпісаньня уніі было ўсьведамленьне крызіснага стану ўласнай Царквы і шчырае жаданьне выратаваць яе, забясьпечыць правы народа, дасягнуць згоды ў дзяржаве, не прычыняючы нікому крыўды. Няма сумневу, што, як і кожнае тварэньне чалавечых рук і розуму, гэтае паяднаньне не было дасканалым. З-за розных палітычных уплываў ды розных падыходаў у разуменьні царкоўнай еднасьці, асабістыя амбіцыі і прыкрыя памылкі, спрэчкі разгарэліся нават паміж тымі, хто першапачаткова ініцыяваў унійныя захады, спарадзіўшы вострыя канфлікт унутры Кіеўскай мітраполіі, а ў далейшым і яе падзел. Нямала нашкодзіла зьяднаньню з кожным разам усё большая пераканананасьць лацінскага боку ў "адзінаправільнасьці" яе багаслоўскага вучэньня і "вышэйшасьці" яе абрадавай традыцыі, што, у сваю чаргу, спрычынілася да страты некаторых характэрных асаблівасьцяў нашае Царквы і да неўласьцівых для яе запазычаньняў.

І усё ж, не зважаючы на тое, што палітычныя інтарэсы суседзяў і агульная атмасфера ў канфесійна падзеленым хрысьціянскім сьвеце да II Ватыканскага сабору ніяк не спрыялі захаваньню таго бачаньня, з якім ярархія Кіеўскай мітраполіі ў 1596 годзе аднавіла сулучнасьць з лацінскім Захадам, нашая Царква нават пасьля 400 гадоў еднасьці з Рымам так і не згубіла сваёй царкоўнай самабытнасьці. І гэта яшчэ раз пацьвярджае правільнасьць рашэньня, прынятага ў Берасьці. Больш таго, пройдзены з тых часоў шлях і перанесеныя выпрабаваньні – аж да праліцьця крыві і мучаніцтва за веру,– паводле трапнага выказваньня Слугі Божага мітрапаліта Андрэя (Шаптыцкага), даказваюць веліч і сьвятасьць нашай уніі, як таксама богаўгоднасьць і жыцьцядайнасьць менавіта такога спосабу зьберажэньня і разьвіцьця ўласнай эклезіяльнай традыцыі, якая ня мае нічога агульнага з накінутым ёй ярлыком "уніятызму". Зрэшты, да папрокаў апанентаў Берасьцейскай уніі можна было б і прыслухацца, калі б мы ўвачавідкі пераканаліся, што яны здолелі дасягнуць царкоўнай еднасьці лепш. Дагэтуль, аднак, акрамя словаў несправядлівай крытыкі, так і не было прапанавана канкрэтных і трывалых формаў паяднаньня, якія б выклікалі надзею.

Наша Царква ўжо ня раз заяўляла – і сёньня мы яшчэ раз хочам гэта пацьвердзіць, што асуджаем уніятызм як фальшывы метад дасягненьня царкоўнай еднасьці, калі адна з Цэркваў пад выглядам аб'яднаньня падпарадкоўвае сабе іншую, а пасьля паступова расьце за яе кошт. Такога роду "уніяцкая" мадэль толькі шкодзіць сапраўднай еднасьці "сьвятой, саборнай і апостальскай Царквы", у якой гаворка ідзе не пра падпарадкаваньне або паглынаньне, а пра "сустрэчу ў праўдзе і любові". Бо толькі гэтая форма яднаньня вынікае з Хрыстовых запаведзяў і сягае каранямі пачаткаў хрысьціянскай гісторыі. У такой мадэлі еднасьці, якая мае назву "сулучнасьць Цэркваў-Сясьцёр", ніхто не пачуваецца пакрыўджаным, паколькі ўласьцівая ёй сулучнасьць выяўляе Хрыстову Царкву як ікону Найсьвяцейшай Тройцы, еднасьць якой існуе ў разнастайнасьці сулучных Асобаў і выключае тыя або іншыя формы панаваньня або залежнасьці, гэта значыць уніятызму.

Калі ўсе гэтыя крытэры дастасаваць да ацэнкі Львоўскага псеўдасабору, які ў вачах праваслаўных адмяніў гістарычную Берасьцейскую унію, то не застанецца ніякага сумневу, што менавіта ён якраз і быў тыповым актам уніятызму з боку Расейскай Праваслаўнай Царквы, паколькі пад выглядам "узьяднаньня" яна падпарадкавала сабе іншую Царкву і вырасла за яе кошт. Без усьведамленьня гэтага ўрок 1946 году застанецца незасвоены. Таму пераадольваць у сваім целе сіндром уніятызму і духоўна ўзрастаць да згаданай "сустрэчы ў праўдзе і любові" павінны ўсе Цэрквы. Мы ж бачым сваё заданьне ў тым, каб у першую чаргу ва ўзаемаадносінах з Рымскай Царквой разьвіць сулучную мадэль так, каб яна стала прывабнай для іншых і сьведчыла пра чысьціню намераў каталіцкага боку ў пошуку еднасьці з Праваслаўнымі Цэрквамі.

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*

# Ліст Сьвятога Айца Бенядыкта XVI
## ЯГО БЛАСЛАВЕНСТВУ ЛЮБАМІРУ З НАГОДЫ ЛЬВОЎСКАГА ПСЕЎДАСАБОРУ 1946 ГОДУ

*Яго Блаславенству Любаміру кардыналу Гузару*
*Вярхоўнаму Архібіскупу Кіева-Галіцкаму*

«*Хто прагне, ідзі да Мяне і пі; хто веруе ў Мяне, у таго, як сказана ў Пісаньні, "з чэрава пацякуць рэкі вады жывое"» (Ян 7, 37-38).* Гэтыя словы Госпада лунаюць у маім сэрцы, калі я думаю пра Украінскую Грэка-Каталіцкую Царкву, якая рыхтуецца адзначыць сумнавядомыя падзеі, сьведкам якіх стаў сабор Сьвятога Юра ў Львове на пачатку сакавіка шэсьцьдзесят гадоў таму. Не зважаючы на тое, што ўкраінцы, якія верылі ў Хрыста, перасьледаваліся, былі гнаныя, пазбаўленыя сваіх пастыраў нялюдзкім дзяржаўным ідэалагічным апаратам, яны засталіся вернымі духоўнай спадчыне Уладзіміра і Вольгі. Хрышчэньне, якое яны прынялі, як выказаўся наш умілаваны Ян Павел II у Апостальскім лісьце *«Euntes in mundum»*, выявіла сябе як «вырашальны элемент чалавечага і культурнага прагрэсу, які мае такое важнае значэньне для існаваньня і разьвіцьця кожнай нацыі і кожнай дзяржавы» (№ 5). На вялікі жаль, у гэтыя сумныя дні сакавіка 1946 году групка царкоўнікаў, сабраных на псеўдасінодзе, прысвоіла сабе права прадстаўляць Царкву, зьдзейсьніўшы цяжкае злачынства супраць царкоўнай еднасьці. Пасьля гэтага яшчэ большым стала ўжываньне сілы супраць тых, што засталіся вернымі еднасьці з Біскупам Рыму, што і абумовіла наступныя цярпеньні і вымусіла Царкву сыйсьці ў падпольле. Але не зважаючы на невымоўныя пакуты і выпрабаваньні, Божы Провід не дазволіў зьнікнуць гэтай супольнасьці, якая на працягу стагоддзяў лічылася законнай і жывой складовай часткай ідэнтычнасьці ўкраінскага народу. Грэка-Каталіцкая Царква ўласным прыкладам працягвала сьведчыць, што Хрыстова Царква зьяўляецца адзінай, сьвятой, саборнай і апостальскай.

Супольнасьць, даручаная пастырскай апецы рэарганізаванай грэка-каталіцкай ярархіі ва Украіне, успамінаючы шасьцідзясятую гадавіну тых падзеяў, павінна знайсьці ў іх стымул для таго, каб паглыбіць сваю шчыльную і пераканаўчую лучнасьць з пераемнікам апостала Пятра. З гэтай Царквы, ачышчанай перасьледаваньнямі, пацяклі рэкі вады жывой ня толькі для украінскіх католікаў, але і для ўсёй Каталіцкай Царквы, расьсеянай у сьвеце. Працягваючы сваю дарогу веры, з дня ў дзень, у сулучнасьці з пераемнікамі апосталаў, бачная еднасьць якіх замацавана Пераемнікам Пятра, украінская каталіцкая супольнасьць змагла захаваць жывую і сьвятую Традыцыю ў яе поўні. Для таго, каб гэты каштоўны скарб Пераданьня («Paradosis») захаваў усё сваё багацьце, важна гарантаваць прысутнасьць двух вялікіх складовых адзінай традыцыі – лацінскай і ўсходняй – паколькі кожную з іх змагла паказаць Украіна ў разнастайнасьці іх гістарычных праяваў. Місія, даручаная Грэка-Каталіцкай Царкве ў поўнай сулучнасьці з Пятром, зьяўляецца падвойнай: яе заданьне, з аднога боку, – у бачны спосаб зьберагаць у Каталіцкай Царкве ўсходнюю традыцыю; з іншага боку – спрыяць сустрэчы розных традыцыяў, і пры гэтым сьведчыць ня толькі іх узаемную суадказнасьць, але і глыбокую еднасьць у разнастайнасьці.

Высокадастойны браце, малюся, каб гэтыя ўгодкі сталі «ўпрошваньнем Духа Суцяшальніка, каб узгадаваў усё, што спрыяе еднасьці, і даў мужнасьць ды сілу тым, хто працуе ў гэтай блаславёнай справе Божай, – як чытаем на ўводзінах саборнага дэкрэту *Unitatis redintegratio.*— Гэта ёсьць упрошваньне аб атрыманьні дару братэрскай любові, прабачэньні правінаў і несправядлівасьцяў, перажытых у гісторыі», як выказаўся блаславёнай памяці Ян Павел II у сваім Апостальскім лісьце *«Вось набліжаецца»* (№ 11). Духоўна яднаюся з вамі ў падзяцы, якая ўзносіцца ў сьвядомасьці супольнага заданьня быць пакорлівым наказу Хрыста: *«Ut unum sint» (каб усе былі адно).* Узношу свой голас да Багародзіцы Марыі і стольніх мучанікаў, якія зьяўляюцца красою вашай супольнасьці і, як знак майго нязьменнага пачуцьця любові і памяці, ад усяго сэрца ўдзяляю вам, біскупам, сьвятарам, манахам і манахіням ды вернікам Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы, асаблівае Апостальскае Блаславеньне.

*Дадзена ў Ватыкане 22 лютага 2006 году*
*У дзень сьвята Пасаду сьв. апостала Пятра*

**БЕНЯДЫКТ XVI, Папа Рымскі**

РАЗАМ

СТАРОНКІ ГРЭКА-КАТАЛІЦКІХ СЕМІНАРЫСТАЎ, выпуск № 6 (22)-2006



# ГАЛОЎНАЯ ЗАПАВЕДЗЬ

*Хто любіць Яго, няхай будзе як сонца, што ўзыходзіць у поўнай моцы сваёй!*
*(Кніга Суддзяў 5:31)*

Кожны чалавек прыходзіць у гэты сьвет, маючы пэўную жыцьцёвую місію, ускладзеную на яго Божым Провідам. Пра гэта чытаем у Бібліі: "І адных Бог паставіў у Царкве, папершае, апосталамі, па-другое, прарокамі, па-трэцяе, настаўнікамі; далей адным даў сілу цудадзейную, таксама дары ацаленьня, дапамогі, кіраваньня, розныя мовы" *(1 Кар 12:28).* Усе мы – чальцы Цела Хрыстовага, кожны са сваім прызначэньнем. Аднак ёсьць адно, што яднае ўсе нашыя пакліканьні: "Дык вось, будзьце дасканалыя, як дасканалы Айцец ваш Нябесны" *(Мц 5:48).* Гэта – пакліканьне кожнага хрысьціяніна да дасканаласьці.

У чым жа заключаецца дасканаласьць? Сьв. Альфонс у сваёй працы "Любоў Ісуса Хрыста" прыводзіць словы сьв. Францішка Сальскага: "Многія бачаць дасканаласьць у пакутных практыках, іншыя ў малітве, іншыя ў частым прыйманьні Прычасьця або ў даваньні міласьціны. Але ўсе яны памыляюцца, бо дасканаласьць заключаецца ў любові Бога звыш усяго". Тое ж піша і ап. Павел: "А найболей апранецеся ў любоў, якая ёсьць сукупнасьць дасканаласьці" *(Кал 3:14).* Гэта азначае, што любоў у сабе аб'ядноўвае і захоўвае ўсе дабрадзейнасьці, якія робяць чалавека дасканалым.

Госпад, прыйшоўшы на зямлю, паказаў нам сапраўдную любоў: не эгаістычную, якая ў аб'екце свайго ўмілаваньня любіць найперш сябе, а ахвярную і самаадданую. "У тым любоў, што ня мы палюбілі Бога, а Ён палюбіў нас і паслаў Сына Свайго, каб уміласьціць за грахоў нашых" *(1 Ян 4:10).* "Я палюбіў вас",– кажа Гасподзь» *(Мал 1:2).* У Бібліі мы знаходзім таксама сьведчаньні пра сілу Божай любові: "Горы скрануцца і пагоркі пахіснуцца, – а любоў Мая не адступіць ад цябе" *(Іс 54:10),* "Ці забудзе жанчына немаўля сваё, каб не пашкадаваць сына ўлоньня свайго? Але калі б і яна забыла, дык Я не забуду цябе" *(Іс 49:15).* Так Госпад любіць кожнага з нас, якіх бы грахоў мы ні рабілі, як бы мы ні абражалі Яго, любіць бескарысьліва, не за нашыя дасканаласьці ці дасягненьні. Болей таго, Ён на справе засьведчыў праўдзівасьць гэтых слоў: "Бог Сваю любоў даказвае нам тым, што, калі мы былі яшчэ грэшнікі, Хрыстос памёр за нас" *(Рым 5:8),* "Ён паранены быў за грахі нашыя і пакутаваў за беззаконьні нашыя; кара міру нашага была на Ім, і ранамі Яго мы ацаліліся" *(Іс 53:5).* Маючы такую любоў да людзей, як можа вытрымаць Божае Сэрца, атрымліваючы ў адказ абыякавасьць, няўдзячнасьць, зьнявагі?! Як жа, мабыць, пакутуе Бог, маючы бяздонны акіян любові да нас і не знаходзячы нашай узаемнасьці?! Госпад хоча, каб чалавек таксама любіў Яго, таму нават пакладае любоў да Сябе яму ў абавязак: "Дык вось, чаго патрабуе ад цябе Гасподзь, Бог твой? Таго толькі, каб ты баяўся Госпада, Бога твайго, хадзіў усімі шляхамі Ягонымі і любіў Яго, і служыў Госпаду, Богу твайму, ад усяго сэрца твайго і ад усёй душы тваёй" *(Друг 10:12).* Выявіць жа сваю любоў да Спрадвечнага Айца мы можам, калі будзем рабіць тое, што падабаецца нашаму Ўмілаванаму: "Бо гэта ёсьць любоў да Бога, каб мы трымаліся запаведзяў Ягоных" *(1 Ян 5:3),*– а таксама ўсёй жыцьцёвай паставаі: "Любоў церпіць доўга, умілажальваецца, любоў не зайздросьціць, любоў не праслаўляе сябе, не ганарыцца, не бушуе, не шукае свайго, не раздражняецца, не намышляе ліха, ня радуецца з няпраўды, а разам цешыцца з ісьціны; усё пакрывае, усяму верыць, на ўсё спадзяецца, усё пераносіць" *(1 Кар 13:4-7).* Любячы Бога, мы будзем імкнуцца выконваць у сваім жыцьці тое, да чаго Бог нас кліча, цярпліва зносячы цяжкасьці, якія нас могуць сустрэць, не шукаючы сваёй выгады ці задавальненьня, не адкідаючы Божых вымогаў, якія нам, на першы погляд, не падабаюцца, але наадварот – пакладаючы ўсю надзею і давер на Ісуса Хрыста, шукаць сілаў у Яго прыкладзе.

"Калі любіце Мяне, захавайце Мае запаведзі" *(Ян 14:15)* – "гэта ёсьць запаведзь Мая, палюбіце ж адзін аднаго, як Я палюбіў вас" *(Ян 15:12).* Такім чынам, Хрыстос паказвае, што сутнасьць любові да Бога заключаецца ў любові да бліжняга. А апостал Ян яшчэ шырэй раскрывае значэньне гэтых слоў: "Хто кажа: я люблю Бога, а брата свайго ненавідзіць, той ілжэ; бо хто ня любіць брата свайго, якога бачыць, як можа любіць Бога, Якога ня бачыць? І мы маем ад Яго такі наказ, каб той, хто любіць Бога, любіў і брата свайго" *(1 Ян 4:20,21).*

Падагульняючы ўсё вышэй напісанае, перад намі паўстае цікавы ланцужок. Дасканаласьць заключаецца ў любові Бога звыш усяго ў адказ на Яго бязьмерную любоў да нас. Любоў жа мы выяўляем праз паслухмянасьць нашаму Айцу, выконваючы Яго запаведзі, а найперш абавязак узаемнай любові. Таму дасканаласьць – гэта любоў да бліжняга, якая сьведчыць пра нашу любоў да Бога. Аднак не забываем, што любіць бліжняга мы павінны не дзеля яго самога, а дзеля Госпада, вобраз Якога ён мае ў сабе.

**бр. Зьміцер (ЧАРНЕЛЬ),** *CSsR*

# МАЙЦЕ ВЕРУ Ў БОГА *(Мк 11, 22)*

**Хрысьціянін павінен быць чалавекам, які шмат моліцца, бо, як ужо хтосьці сказаў, воін Хрыста найлепей змагаецца на каленях. Апостал Павал заклікае: *"Бесьперастанку малецеся"* (1 Фес 5, 17). Але ж як зможам заўсёды маліцца, калі яшчэ і іншымі справамі трэба займацца?**

Вялікі багаслоў Арыген кажа, што той няспынна моліцца, хто сумяшчае малітву са справамі. Гэта значыць, што на працягу дня трэба рабіць частыя паўзы для малітвы, каб *напоўніцца Духам* (Эф 5, 18) – атрымаць духоўную сілу для распазнаньня дрэнных думак, якія паходзяць ад д'ябла, адкідваць іх і практыкаваць дабрадзейнасьці, супрацьлеглыя нашым недахопам, напрыклад, не дагаджаць свайму страўніку, а адмаўляць сабе ў самай смачнай страве, калі вельмі хочацца. Гэтыя перапынкі для малітвы надзвычай важна мець, бо бяз іх падчас нашых штодзённых заняткаў ня зможам пазьбягаць прынамсі маленькіх правінаў.

Працяг на с.12 ⇨

Лета – час выездаў і адпачынкаў. Але не для ўсіх. Мала дыя людзі маюць магчымасьць у гэты час паступіць у вышэйшыя навучальныя ўстановы для атрыманьня прэстыжнай прафесіі. Шмат хто яшчэ сумняваецца ў сваім выбары і ня ведае, што для яго лепш. У гэтым артыкуле я хацеў бы яшчэ раз зьвярнуцца да тэмы сьвятарскага служэньня і разгледзець яго як адзін з магчымых жыцьцёвых выбараў у сучасным сьвеце.

Вялікі ўплыў на жыцьцёвы выбар аказваюць бацькі. Маладога чалавека можна параўнаць з птушанём, якое толькі пачынае самастойна вучыцца лятаць. Бацькі ўжо ня маюць непасрэднага ўплыву на яго, не паставяць яго ў кут за правіны, не забароняць гуляць на вуліцы. Але даволі моцным застаецца бацькоўскі аўтарытэт, які іншым разам уплывае падсьвядома на рашэньні чалавека. У падлеткавым узросьце Божае пакліканьне можа стаць крыніцай сур'ёзных унутраных

# СЬВЯТАРСТВА – ПАКЛІКАНЬНЕ І ПРАЦА

*Бог выбраў нас у Хрысьце перад заснаваньнем сьвету, каб мы сталі сьвятымі і беззаганнымі перад Ім у любові (Эф 1, 4)*



• *Працэсія падчас водпуставага сьвята ў Кастамлотах (Польшча). Нававысьвячаныя дыяканы БГКЦ Андрэй Буйніч і Алесь Шаўцоў нясуць сьв. мошчы Падляшскіх мучанікаў.*

Жаданьне быць сьвятаром я адчуў вельмі моцна за год да заканчэньня школы. Памятаю, як гарэла маё сэрца, калі ўяўляў сабе, як я спавядаю людзей, як трымаю Сьвятыя Дары, кажучы: "Благаславёны той, хто прыходзіць у імя Гасподняе". Я ў той час хадзіў на богаслужэньні амаль штодзённа. Калі б тады спаткаў чалавека, які б расказаў і паказаў мне, што такое сьвятарства, маё жыцьцё, напэўна, склалася б інакш.

канфліктаў і спрэчак з бацькамі, асабліва няверуючымі.

Адзін з прыкладаў вырашэньня гэтай складанай сітуацыі паказвае сваім жыцьцём сьв. Ян Залатавусны. Ён жыў разам з маці. У юным узросьце ён адчуў пакліканьне да манаства. Але, калі б ён пайшоў у манастыр, старая маці засталася б адна. Таму Ян да самай матчынай сьмерці клапаціўся пра яе і толькі потым пастрыгся ў манахі.

Ёсьць і яшчэ адно выйсьце з глухой сьцяны неразуменьня з боку атачэньня – зрабіць рашучы крок у бок пакліканьня. Праз некаторы час, калі малады чалавек упэўніцца ў правільнасьці зробленага выбару і абярэ шлях служэньня Госпаду, бацькі і прыяцелі перастаюць спрачацца, і нават могуць навярнуцца да Госпада.

Але найбольшай праблемай для прыняцьця рашэньня аб прысьвячэньні свайго жыцьця Богу зьяўляецца сам чалавек. Ці можа чалавек у 17-18 гадоў цьвёрда сказаць, кім ён хоча быць? Многіх маладых людзей зьмяняюць навучальныя ўстановы пасьля двух-трох гадоў навучаньня. Тое ж самае датычыць семінарыяў і кляштараў. Для разуменьня Божага пакліканьня важна паразмаўляць з сваім духоўным айцом. Абраўшы шлях да сьвятарства, малады чалавек павінен ведаць свае будучыя абавязкі і праблемы, якія могуць спаткаць яго на гэтым шляху. Добрай падрыхтоўкай для будучага семінарыста магло б стаць жыцьцё некаторы час на парафіі па семінарыйным рэжыме. Таксама важна мець і адпаведныя рысы характару: любоў да малітвы і духоўных практык, добрасумленнасьць, увага на патрэбы бліжніх. Для ўмацаваньня ў пакліканьні да сьвятарства трэба вызваліцца ад унутранага рабства самалюбства і схаванага эгаізму.

Іншай перашкодай голасу пакліканьня можа быць страх адказнасьці перад Богам і людзьмі. Вось што сказаў пра гэта Бенядыкт XVI на спатканьні з духавенствам падчас пілігрымкі ў Польшчу: "Веліч Хрыстовага сьвятарства можа ўразіць. Як сьв. Пётр, можам усклікнуць: "Адыйдзі ад мяне, бо я чалавек грэшны, Госпадзе" *(Лк 5, 8)*, таму што з цяжкасьцямі прыходзіць да нас вера ў тое, што Хрыстос паклікаў менавіта нас. Ці ня мог Ён выбраць каго-небудзь іншага, больш здольнага, больш сьвятога? Але менавіта на нас паў поўны любові позірк Ісуса, і гэтаму позірку трэба даверыцца".

Памятаю, як перад семінарыяй і ў першыя дні ў семінарыі, усьведамляючы свае слабасьці і магчымыя перашкоды, мне спатрэбілася нямала намаганьняў, каб не сыйсьці з абранага шляху. На працягу навучаньня могуць зьявіцца розныя ўнутраныя перашкоды. Гэта непасьпяховасьць у навучаньні, розныя кампраметуючыя сітуацыі, у якія лёгка можа патрапіць у сьвеце семінарыст, зьмена першапачатковай матывацыі па розных прычынах. Тут застаецца толькі пакласьціся на Госпада і сказаць: "Калі Бог сапраўды паклікаў мяне быць сьвятаром, то Ён зробіць усе, каб я ім быў". Гэтая формула пазьней ня раз дапамагала мне ў час выпрабаваньняў.

Малады чалавек, які адгукнуўся на пакліканьне да сьвятарства, становіцца на доўгі шлях яго разьвіцьця і дасьпяваньня ў сьценах семінарыі. Чым адрозьніваецца вучоба ў семінарыях ад навучаньня ў сьвецкіх ВНУ? Варункі жыцьця семіна-

рыстаў вельмі падобныя да варункаў побыту курсантаў ваенных вучэльняў. Рэжым і дысцыпліна даволі строгія. Рэжым семінарыста пабудаваны такім чынам, што малітва і чытаньне Слова Божага займае некалькі гадзінаў у дзень. Абавязковы ўдзел у штодзённай Еўхарыстыі і частая споведзь. Малітоўная і еўхарыстычная блізкасьць да Госпада, а таксама сталыя прыватныя разважаньні над сваімі адносінамі з Ім даюць магчымасьць убачыць і перамагчы ўласныя грахі, залячыць Божай ласкай душэўныя раны грахоўных схільнасьцяў, лепей зразумець Божую волю адносна сябе. Стасункі з братамі сьціраюць вострыя вуглы ўласнага характару, вучаць цярплівасьці, увазе на патрэбы іншых, зьнішчаюць самалюбства. У семінарыі штодзённа вучышся выконваць волю Божую ў дробязях. Падчас навучаньня семінарысты праходзяць абавязковую практыку. Гэта прыслугоўваньне падчас богаслужэньняў, удзел у пілігрымках, праца ў парафіях, выдавецкая дзейнасьць. Семінарыста рыхтуюць да абвяшчэньня слова Божага сьвету.

Сьвет патрабуе любові. Сапраўднай любові, якая вытрымлівае бурлівыя патокі і моцныя вятры, якая робіць крыж збаўленьнем, якая дае жыцьцё вечнае. Сьвет патрабуе пазнаньня і прыкладаў Божай любові.

Бенядыкт XVI на спатканьні з духавенствам падчас пілігрымкі ў Польшчу казаў: "Вернікі чакаюць ад сьвятароў, каб тыя былі сьпецыялістамі па спатканьні з Богам. Не патрабуецца ад сьвятара, каб быў экспэртам у галіне эканомікі, будаўніцтва ці палітыкі. Чакаюць ад яго, каб быў экспэртам у галіне жыцьця духоўнага. Каб супрацьстаяць спакусам (...), не абавязкова, каб сьвятар арыентаваўся ва ўсіх актуальных і зьменных кірунках; вернікі чакаюць ад яго, што будзе сьведкам вечнай мудрасьці, якая цячэ з абвешчанага Слова".

Любоў да Госпада зьяўляецца абавязковым варункам для пакліканьня. Уваскрослы Ісус спачатку запытаў Пятра: "Ці любіш ты Мяне?" І толькі пасьля таго, як Пётр адказаў: "Так, Госпадзе! Ты ведаеш, што я люблю Цябе", Ісус сказаў: "Пасьві авечкі мае". Толькі любоў да Госпада, руплівае выкананьне Яго запаведзяў дае магчымасьць пачуць у сэрцы словы пакліканьня: "Пасьві авечкі мае".

**Аляксей ФІЛІПЕНКА**

*"Вернікі чакаюць ад сьвятароў, каб тыя былі сьпецыялістамі па спатканьні з Богам. Не патрабуецца ад сьвятара, каб быў экспэртам у галіне эканомікі, будаўніцтва ці палітыкі. Чакаюць ад яго, каб быў экспэртам у галіне жыцьця духоўнага."*

Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI

# МАЦІ БОЖАЯ НЯСТОМНАЙ ДАПАМОГІ

***Ці ня ў кожнай з нашых парафіяў можна ўбачыць ікону Маці Божай Нястомнай Дапамогі, якая зьяўляецца Апякункай Чыну манахаў-рэдэмптарыстаў. Бывае, гэтая ікона стаіць дзесьці збоку, без асаблівай пашаны. Мабыць, людзі ня ведаюць, якую пярліну маюць каля сябе. Таму ў гэтым артыкуле хачу трошкі расказаць пра гэты цудатворны абраз.***



Спачатку крыху гісторыі. Сярэднявечная легенда распавядае пра купца, які скраў цудатворную ікону ў адной з цэркваў вострава Крыт. Падчас марскога падарожжа толькі дзівосная дапамога Божай Маці ратавала яго карабель ад верная сьмерці ў час буры. Праз год купец разам з выкрадзеным абразом апынуўся ў Рыме, дзе захварэў і памёр, але перад сьмерцю наказаў передаць ікону ў царкву. 27 сакавіка 1499 году яе перадалі манахам, якія служылі ў царкве сьв. Мацьвея Апостала. У гэтым храме абраз шанаваўся на працягу наступных трох стагоддзяў. Аднак напалеонаўскія войскі разбурылі гэты храм, і ў 1819 годзе абраз Багародзіцы трапіў ва ўзьведзеную над Тыбрам царкву Санта-Марыя-ін-Пастэрула, дзе ніхто ня ведаў, якую каштоўную ікону маюць. У 1866 годзе пра ікону даведаліся манахі-рэдэмптарысты, якія шукалі яе, і 26 красавіка 1866 году цудатворная ікона была выстаўлена для ўсеагульнага пакланеньня ў царкве сьв. Альфонса. Паводле паданьня, Папа Пій IX пры гэтым сказаў манахам Чыну Найсьвятога Адкупіцеля: "Зрабіце так, каб гэтую ікону ведалі ва ўсім сьвеце",— даручыўшы такім чынам нашай Кангрэгацыі справу распаўсюджаньня культу Маці Божай Нястомнай Дапамогі.

Ікона напісаная ананімным аўтарам у адпаведнасьці з канонам Багародзіцы Балеснай, які падкрэсьлівае хрысьціянскую таямніцу Адкупленьня. На іконе Найсьвятая Маці пяшчотна, але з тугою, глядзіць на сваіх шанавальнікаў і гатовая пасьпяшацца ім на дапамогу ў любой патрэбе. Ікона Маці Божай Нястомнай Дапамогі – гэта ня проста прыгожы дэкаратыўны малюнак, гэта вобраз, які нясе пэўнае пасланьне для нас. Гэта катэхізацыя, якая растлумачвае галоўную таямніцу нашай веры. Розныя паказаныя ў ёй элементы гавораць нам пра Бога, Які прысутнічае сярод нас, пра Яго Крыжовы шлях, пра поўнае любові заступніцтва Марыі і пра зьзяньне будучай славы. У цэнтры іконы – злучаныя рукі Маці і немаўля, намаляваныя так, што Марыя паказвае на свайго сына Ісуса Хрыста, Сына Божага, Які ахвяруе жыцьцё за ўсіх нас.

Немаўля Ісус паказаны як ахвяра, падрыхтаваная для прынашэньня, што зьдзейсьніцца так, як гэта апісвае евангеліст у сцэне Ахвярапрынашэньня ў Храме *(Лк 2:22-40)*. А тое, як стаіць Багародзіца, нагадвае нам словы з Евангельля: "Каля крыжа Ісуса стаяла Маці Ягоная" *(Ян 19:25)*, стаіць цьвёрда, нязломленая болем. Усе элементы кампазіцыі падкрэсьліваюць рэальнасьць пакуты, якая выяўлена на твары Маці, у рэзкім руху Немаўля Ісуса і ў наяўнасьці прыладаў Яго пакуты. Аднак у той жа час падкрэсьліваецца веліч і перамога Ісуса, што пазначана залатым фонам іконы і тым, як урачыста анёлы трымаюць прылады Яго сьмерці. Гэтыя прылады здаюцца ня так прыладамі кары, як трафеямі перамогі; іх быццам забралі з Галгофы ў раніцу Ўваскрасеньня. Зразумела, чаму вобраз Нястомнай Дапамогі кліча да малітвы. Бо ў ім – уся Таямніца Адкупленьня.

Сёньня існуе проста незьлічоная колькасьць цэркваў, прысьвечаных Маці Божай Нястомнай Дапамозе. Яе прысутнасьць і культ надзвычайна распаўсюдзіліся па ўсім сьвеце. Гэта адбылося дзякуючы тым ласкам, якія Найсьвятая Дзева ўдзяляла многім Яе шанавальнікам, а таксама дзякуючы прапаведніцтву місіянераў-рэдэмптарыстаў. Лічыцца, што ўсе копіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі зьяўляюцца цудатворнымі, незалежна ад таго, ікона гэта, ці абразок, ці проста выява. Таму хачу заклікаць усіх вернікаў нашай Царквы аддаваць пашану Багародзіцы – нашай Апякунцы і Заступніцы, зьбіраючыся на Акафіст перад вобразам Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў сваіх парафіях, просячы Яе дапамогі, якая вельмі патрэбная і беларускім грэка-каталікам, і кожнаму з нас асабіста.

Больш падрабязная інфармацыя на сайце ***www.redemptor.ru***

**бр. Зьміцер (ЧАРНЕЛЬ)**, *CSsR*

***«Ня бойся, бо Я з табою!.. Я ўмацую цябе і дапамагу табе»*** *(Іс 41, 10)*

*Каб знайсьці сваё пакліканьне важна адважыцца пажыць трохі ў манастыры. Гэта заўсёды можна арганізаваць у нашых манаскіх супольнасьцях, дзе вас з радасьцю чакаюць.*

**Адрас манастыра сьв. Альфонса:**
*79068 Львів, Україна*
*вул. Замарстинівська, 225*
***e-mail: apalinariy@bigmir.net***



Чын Найсьвятога Адкупіцеля - Айцы Рэдэмптарысты

# ГЭТА СЬМЕШНА...

Гэта сьмешна – людзі адкідаюць Бога,а потым зьдзіўляюцца, што сьвет ператвараецца ў пекла.

Гэта сьмешна – людзі часам сьлепа вераць у тое, пра што пішуць газеты, а сумняваюцца ў тым, што напісана ў Бібліі.

Гэта сьмешна – кожны жадае дасягнуць раю, але не жадае верыць, думаць, казаць і дзейнічаць так, як аб гэтым гаворыць Біблія.

Гэта сьмешна – чалавек можа сказаць "я веру ў Бога" і ісьці далей за Сатаной, які, зрэшты, таксама "верыць" у тое, што Бог ёсьць.

Гэта сьмешна – шмат хрысьціянаў кожную нядзелю ходзяць да Царквы, а на працягу тыдня эфектыўна забываюць пра тое, што зьяўляюцца хрысьціянамі і павінны быць сьведкамі Хрыста там, дзе яны знаходзяцца – у школе, на працы, на вуліцы...

Гэта сьмешна – вялікае мноства анекдотаў і сьмяшынак (часта бессаромных і вульгарных) разыходзяцца ў віртуальнай прасторы як нічым непатушальны агонь. Але, калі чалавек атрымлівае лісты, у якіх ідзе гаворка пра Бога, пра высокія маральныя патрабаваньні, пастаўленыя яму Хрыстом, – ён двойчы падумае, ці адправіць яго сваім знаёмым. І, магчыма, ніколі не адважыцца гэта зрабіць, паколькі баіцца, што яны пра яго падумаюць?

*Магчыма, ты ўсьміхнешся, калі прачытаеш гэты артыкул і скажаш, што гэта глупства і што гэта – проста сьмешна. Можаш, вядома, гэты артыкул адразу забыць. Ніхто пра гэта нават не даведаецца. Аднак тады не зьдзіўляйся, што вакол столькі зла, і не наракай на фатальны стан гэтага сьвету.*

*Калі, аднак, верыш, што гэты сьвет можна зьмяніць і ўзбагаціць дабром, то пачні з сябе. Задумайся, якое месца ў тваім жыцьці займае Бог? Хто або што займае месца Бога ў тваім жыцьці? Каму ты служыш? Каму жадаеш падабацца? Куды накіроўваешся? Ці ўспрымаеш сур'ёзна тое, што напісана ў Сьвятым Пісаньні? Ці мае ўплыў Божае Слова на тваё жыцьцё?*

*Ты, як хрысьціянін, ці зьяўляешся сьведкам Хрыста "тут і цяпер"?*

# МАЙЦЕ ВЕРУ Ў БОГА

⇨ Заканчэньне са с.9

Маліцца трэба з пакораю, бо Біблія кажа: *Малітва пакорнага скрозь хмары прабіваецца (Сір. 35, 17).* Гэта значыць, што мы павінны як найчасьцей пераконваць сябе ў нашай чалавечай слабасьці, кажучы сабе ў думцы, напрыклад: "Я сам бяз Бога нічога добрага не магу зрабіць". Калі мы молімся, нам неабходна мець бязьмежны давер, што Бог выслухае нас: *"З тых, хто даверыўся Госпаду, ці быў хто расчараваны? ...Альбо той, хто клікаў Яго, ці быў Ім пагарджаны? (Сір 2, 10).* У малітве ў першую чаргу трэба прасіць духоўных дароў, а здароўя ці матэрыяльнага дастатку — толькі з умоваю, што яны не прынясуць шкоду нашай душы. Нашая малітва павінна быць пастаяннаю. Ісус кажа: *"Трэба заўсёды маліцца і ня падаць духам" (Лк 18, 1).* Магчыма, трэба будзе чакаць доўгія гады, але Бог паўплывае на сітуацыю, хоць нярэдка і не ў такі спосаб, як мы сабе ўяўляем. Сьв. Моніка, маці сьв. Аўгустына, малілася і пасьціла за навяртаньне свайго сына 15 гадоў — і была выслухана! Давайце будзем моцна маліцца! Хрыстос кажа: *"Прасеце, і дасца вам... Бо кожны, хто просіць, атрымлівае" (Мц 7, 7-8).* Бог будзе змагацца за кожную душу, каб навярнуць яе прынамсі ў хвіліну сьмерці. Кожнага дня трэба прасіць шмат ласкаў для сябе і для іншых, молячыся за грэшнікаў, душы ў чысцы, за хрысьціянаў, асабліва за духавенства, каб палалі агнём любові, старанна выкаранялі свае недахопы ды іншым людзям паказвалі сваім прыкладам і словам міласэрнае аблічча Хрыста, *"каб усе людзі збавіліся і дасягнулі спазнаньня праўды (1 Цім 2, 4).* Гэта абавязак кожнага верніка маліцца і працаваць у той спасаб, які падказвае Сьвяты Дух, каб асьвячаць іншых.

Кожнага дня я малюся за сьвятыя і шматлікія сьвятарскія ды манаскія пакліканьні ў нашай Царкве, асабліва, каб манастыры трох галінаў Рэдэмптарысцкай сям'і (ёсьць яшчэ Сёстры Рэдэмптарысткі актыўнага і малітоўнага тыпу) былі заснаваныя і разрасталіся ў БГКЦ. Давайце маліцца ўсе разам за гэта і ва ўсіх іншых патрэбах нашай Царквы. Малітоўныя намеры могуць быць таксама, напрыклад, такія: дастойныя храмы, прафесійны пераклад Бібліі і інш. Я непахісна веру, што Бог выслухае нашую малітву, бо ўсё мажліва таму, хто веруе *(пар. Мк 9, 23)*! Трэба прыкладаць максімум стараньняў, і нашая сітуацыя абавязкова будзе зьмяняцца на лепшае, хоць і не адразу, а па меры таго, як кожны з нас будзе вызваляцца ад сваіх дрэнных звычак і эгаізму, бо толькі тады мы станем добрымі прыладамі Сьвятога Духа.

**бр. Апалінар (НІКАЛАЕЎ),**
*CSsR*

# КРЫЛЫ СВАБОДЫ




## Гумар айцоў пустыні

У адным манастыры ігумен заснуў падчас спатканьня з братамі.
– Замаўчым,– сказалі браты,– дазволім ігумену спаць.
Тады ігумен, прыпадняўшы трохі галаву, адказаў:
– Як жа я магу спаць, браты, калі не размаўляеце?

**Над выпускам працавалі:**
Аляксей Філіпенка,
бр. Апалінар (Нікалаеў),
бр. Зьміцер (Чарнель)



**ПІШЫЦЕ НАМ:**
**razam@biz.by**

«RAZAM»
*W.S.D., ul.Kościelna 10, 17-312, Drohiczyn, POLSKA*

*"Апосталаў прапаведаваньне і Айцоў навучаньне ўмацавалі веру праўдзівую ў Царкве, і яна, апрануўшыся ў шаты праўды, вытканыя з нябеснага багаслоўя, праўдзіва выясьняе і славіць набожнасьці вялікую тайніцу".*

*(Кандак нядзелі Айцоў I Усяленскага Сабору)*

# Краевугольныя камяні Царквы

Хрысьціянская Царква зьяўляецца супольнасьцю вернікаў, якая заснавана і кіруецца Ісусам Хрыстом, Сынам Божым. Таму Царква спалучае ў сабе ў выніку Ўцелаўленьня Бога-Слова два элементы – Божы і чалавечы. Чалавечы складнік праяўляецца ў вельмі канкрэтных асобах. Вось жа і гісторыя Царквы раскрываецца праз жыцьцё і дзейнасьць выдатных асобаў – тых, каго мы называем Айцамі Царквы. Паняцьце "Сьвятыя Айцы" (Айцы Царквы) шчыльна зьвязана з паняцьцем Сьвятога Пераданьня (Традыцыі) – адной з найглыбейшых асноваў нашай веры.

У канцы I стагоддзя паміраюць апошнія сьведкі, якія асабіста бачылі і чулі Хрыста. Царква ж захоўвае памяць пра апосталаў і спасылаецца на іх аўтарытэт у сваёй навуцы. Дабравесьце працягваюць несьці тыя, хто ведаў Хрыста толькі па вусным пераданьні і па запісаных Евангельлях. Прыйшоў час актыўнага будаўніцтва царкоўнае грамады, літургічнага жыцьця і разьвіцьця хрысьціянскае думкі. Хоць вуснае і пісьмовае Пераданьне існавала ў памяці асобных людзей, аднак яно было выявай веры ўсёй Царквы. Асноўнае значэньне Пераданьня ў тым, што права і абавязак вызначаць праўду веры належыць толькі Царкве. Апосталы і іх вучні ня толькі прапаведавалі Добрую Вестку ў супольнасьцях і настаўлялі сваіх наступнікаў-біскупаў у асновах навукі Хрыста. Праз іх малітву і ўскладаньне рук Сьвяты Дух прасьвятляў кіраўнікоў супольнасьцяў у разуменьні Божага Адкрыцьця ды падтрымліваў іх на шляху да Праўды. Так ажыцьцяўляецца абяцаньне Ісуса Хрыста: "Дух Сьвяты... навучыць вас усяму і нагадае вам усё, што Я казаў вам" *(Ян 14, 26)*. Пытаньне праўдзівасьці навукі розных супольнасьцяў ад самага пачатку распаўсюджваньня хрысьціянства вырашалася з пункту гледжаньня бесьперапыннасьці апостальскай пераемнасьці. Менавіта дзякуючы кіраўніцтву Духа Божага — сапраўднай крыніцы жыцьця супольнасьці — Паўсюдная Царква, валодаючы паўнатой пазнаньня і аўтарытэтам, робіць адбор таго, чаму належыць стаць яе Пераданьнем (Традыцыяй). І калі асобныя кіраўнікі Царквы часам памыляюцца (прыкладам таму – біскупы-гарэтыкі, што былі ў гісторыі Царквы ў розныя часы), то ўся Саборная Царква застаецца непамыльная ў навуцы веры.

У старажытнасьці слова "айцец" мела значэньне ня толькі "бацька сям'і", але таксама і "настаўнік"; у Рыме так называлі яшчэ і паганскіх сьвятароў; у Ізраілі – патрыярхаў. У хрысьціянскай супольнасьці словам "айцец" пачынаюць называць тых, хто нараджае нас у Хрысьце – апосталаў і іх наступнікаў. З IV стагоддзя гэтая назва ўжываецца ў дачыненьні да сьвятароў, дыяканаў і манахаў. Айцамі Царквы лічацца царкоўныя настаўнікі і пісьменьнікі, якіх Царква аднадушна вызнае як аўтэнтычных сьведкаў і гарантаў праўдзівае веры. У часы першых Усяленскіх Сабораў Сьвятымі Айцамі называюць таксама біскупаў, якія адзначаліся сваёй прававерансьцю. Першы пералік Айцоў сустракаем у кнізе сьв. Васіля Вялікага "Пра Сьвятога Духа".

У сучасным багаслоўі прынята, што Айца Царквы абавязкова мусіць характарызаваць наступныя рысы – старажытнасьць, сьвятасьць жыцьця, прававерная навучаньне і вызнаньне Царквою. Згодна рыма-каталіцкай традыцыі, час Айцоў абмяжоўваецца сярэдзінай VII стагоддзя (апошнімі Айцамі Царквы лічацца сьв. Рыгор Вялікі, які памёр у 604 г., і сьв. Ісідар Сэвільскі, што памёр у 636 г.). Ва Ўсходняй Царкве час Айцоў Царквы завяршаецца ў сярэдзіне VIII стагоддзя са сьмерцю сьв. Яна Дамаскіна. Усе пазьнейшыя багасловы называюцца Настаўнікамі Царквы, а найбольш значныя з іх – Дактарамі Царквы. У разуменьні Ўсходняй Царквы Сьвятое Пераданьне не абмяжоўваецца храналагічнымі рамкамі, і айцом Царквы завецца таксама і той настаўнік, які ў правільных паняцьцях тлумачыць апостальскую веру для сваіх сучасьнікаў. Другі крытэр – сьвятасьць – не азначае бязгрэшнасьці, бо адзіны Бог без граху. У даўніну разуменьне сьвятасьці было значна шырэй, чым цяпер, і фармальнага працэсу кананізацыі не існавала. Таму канчатковае вызнаньне належала Царкве. Прававерная навучаньне Айцоў ня трэба разумець як "правільнае да апошняй кропкі", тым больш – з пункту гледжаньня пазьнейшай дагматыкі. Духоўная пераемнасьць з Айцамі Царквы азначае не сьляпое капіяваньне ўсяго, што яны напісалі, а засваеньне нейкай унутранай логікі, інтуіцыі, пасьлядоўнасьці разьвіцьця сьвятаайцоўскай думкі. Айцы жылі ў канкрэтных гістарычных і культурных абставінах, і іх творы былі адказамі на пэўныя пытаньні канкрэтным асобам у часы, калі дагматыка толькі фармавалася. Таму ў многіх Айцоў месцамі можна адшукаць нейкія няправільныя сьцьверджаньні. Толькі вера Царквы як супольнасьці вернікаў, аб'яднаных і вядомых адзіным Духам, можа правесьці мяжу паміж праўдай і памылкай, забясьпечыць тую пераемнасьць і пастаянства хрысьціянскай думкі ў часе і прасторы.

Зварот да Айцоў Царквы – частка шляху да пачаткаў хрысьціянства, які называюць "узыходжаньнем да вытокаў". Вывучэньне спадчыны Сьвятых Айцоў мае вялікае значэньне для інтэлектуальнага, пастаральнага і духоўнага жыцьця Царквы. У чым палягае для нас каштоўнасьць сьвятаайцоўскіх пісаньняў, іх прыклад жыцьця з Богам?

Сьвятыя Айцы, як ужо адзначалася, зьяўляюцца найбольш блізкімі да вытокаў хрысьціянскай веры. Айцы першых стагоддзяў былі нават непасрэднымі сьведкамі сьвятаапостальскага пераданьня – крыніцы Сьвятога Пераданьня. Таму Айцы лічацца пачынальнікамі і сьцьвярджальнікамі Пераданьня, якое пазьней яны верна захоўвалі і стала тлумачылі. "Трымацца Айцоў" не азначае хапацца за мінулае, але ўпэўнена і свабодна ўзрастаць на асновах веры, якія захоўваюцца заўсёдна і нязьменна. Аўтарытэт Айцоў у багаслоўскіх пытаньнях застаецца заўжды вельмі важкім; недарма пастановы Халкідонскага Сабору пачынаюцца словамі: "Насьледуючы Сьвятых Айцоў...".

Айцы Царквы былі нястомнымі тлумачальнікамі Сьвятога Пісаньня, якое было для іх фундаментам веры, пажывай пабожнасьці, крытэрам праўды, аргументам у прапаведаваньні, душою багаслоўя. Айцы ня толькі пакінулі пасьля сябе шматлікія каментары Старога і Новага Запаветаў, яны распрацавалі навуковыя метады тлумачэньня Бібліі. Сучасная біблістыка, нягледзячы на новыя дасягненьні ў гэтай галіне, пабудавана на творах Сьв. Айцоў.

Божае Адкрыцьцё ўваходзіла ў юдэйскі і паганскі сьвет, сустракаючы ў кожным свае сьпецыфічныя цяжкасьці. Для духоўна сфармаванага чалавека натуральна суаднесьці новыя рэлігійныя праўды са звыклым складам думак, ён імкнецца "прыстасаваць" Адкрыцьцё да гатовых канцэпцыяў. Пры гэтым можа адбыцца натуральная інкультурацыя Божага Адкрыцьця – выява Яго без скажэньня сутнасьці праз культуру дадзенага народу і часу. Дзякуючы Айцам Царквы, адбылася інкультурацыя хрысьціянства ў грэка-рымскі сьвет – паяднаньне хрысьціянскай духоўнасьці з добрай спадчынай антычнасьці, элінiстычныя гуманітарныя навукі былі выкарыстаны на службе Евангельлю. Заслугай сьвятаайцоўскага генія ёсьць шматлікія багаслоўскія прынцыпы і паняцьці, якія былі створаныя Айцамі або запазычаныя імі з грэцкай філасофіі.

Бясцэнны ўклад Айцоў у разьвіцьцё дагматычнага багаслоўя. Раскрыцьцё царкоўнага веранавучаньня праходзіла пад уплывам двух матываў – пазітыўнага і негатыўнага. Пазітыўны матыў будуецца на тым, што ў Хрысьце можна знайсьці ўсе скарбы мудрасьці і розуму *(пар. Кал 2, 3)*, чэрпаючы з крыніцы Сьвятога Пісаньня і жывой Традыцыі Царквы.

Працяг на с.18 ⇨

# АПОСТАЛЬСТВА МАЛІТВЫ ЗА БЕЛАРУСЬ

На пачатку сёлетняй вясны з ініцыятывы вернікаў розных канфесіяў у Беларусі паўстала выдатная хрысьціянская экуменічная акцыя – сумесная малітва за Беларусь кожную пятніцу, а 20-й гадз. вечара. За гэты час на сайце *www.zabelarus.info* зарэгістраваліся каля 300 вернікаў розных канфесіяў, якія засьведчылі сваё жаданьне далучыцца да сумеснай малітвы за нашу Бацькаўшчыну. Сярод іх – праваслаўныя, рыма-каталікі і грэка-каталікі, пяцідзясятнікі і баптысты, ёсьць нават юдэі і асобы, якія яшчэ толькі адчулі патрэбу шукаць Бога. Няма сумневу, што моляцца за аздараўленьне беларускага народу і просяць ў Бога ласкі для яго ня толькі гэтыя вернікі, але й тысячы іх сяброў, блізкіх і знаёмых. Варта адзначыць, што на заклік маліцца за Беларусь адгукнуліся таксама асобныя вернікі з Украіны, Польшчы, ЗША, Расеі, Ізраіля, Чэхіі, Бельгіі, Гішпаніі, Канады, Брытаніі, Літвы.

Дарэчы, у хрысьціянскай гісторыі Беларусі ўжо была падобная ініцыятыва. На пачатку 1942 году беларускі грэка-каталіцкі Экзарх а. Антон Неманцэвіч у цяжкі для нашага народу і Царквы час, калі страх агарнуў многіх, калі пачаліся арышты і расстрэлы каталіцкага духавенства, дзеля ўмацаваньня духу народу заснаваў Апостальства малітвы за Беларусь. Не баючыся розных інтрыгаў, даносаў і помсты, ён імкнуўся сеяць зерне веры і надзеі тады, калі, здавалася, нянавісьць, хлусьня, варожасьць і сьмерць цалкам апанавалі гэты сьвет.

Напачатку сябрамі створанага айцом А.Неманцэвічам Апостальства малітвы за Беларусь былі толькі сьвятары, кожны з якіх абавязваўся штомесяц адпраўляць адну Службу Божую за беларускі народ. Рабілася гэта з такім разьлікам, каб гэтыя Службы Божыя за народ адбываліся штодзённа. Потым да Апостальства малітвы за Беларусь далучыліся таксама й сьвецкія вернікі, якія ўзялі на сябе абавязак у намеры беларускага народу штомесяц прыступаць да сьв. Прычасьця.

У сучасным хрысьціянскім жыцьці Беларусі, на жаль, яшчэ ня шмат прыкладаў падобных экуменічных ініцыятываў. Істотна таксама, што новая ініцыятыва маліцца за Беларусь нарадзілася не паводле загаду, а ад шчырага сэрца вернікаў, і таму важна, каб малітва гэтая ня згасла, а знаходзіла ўсё новых прыхільнікаў.

Цяперашняя хрысьціянская экуменічная ініцыятыва ***штопятніцы маліцца за Беларусь*** можа стаць добрай нагодай для аднаўленьня Апостальства малітвы за Беларусь, заснаванага нашым Экзархам-мучанікам Антонам Неманцэвічам, які загінуў у засьценках гестапа ў Менску. І гэта будзе найлепшым ушанаваньнем памяці а. Антона, які шчыра служыў свайму беларускаму народу, нёс яму Добрую Вестку і аддаў за гэта сваё жыцьцё.

Поруч падаем тэкст звароту з заклікам маліцца за Беларусь.




**Мы зьвяртаемся да вас, хрысьціяне: праваслаўныя, каталікі, евангельскія хрысьціяне, а таксама ўсе людзі добрага сумленьня. У сёньняшні час, няпросты для Беларусі, нам трэба аб'ядналцца для паста і малітвы, – каб прасіць Божай міласьці для ацаленьня нашай нацыі.**

Час сапраўды складаны. *"І суд адступіў назад, і праўда стала здалёку, бо ісьціна спатыкнулася на плошчы, і сумленнасьць ня можа ўвайсьці. І ня стала ісьціны, і той, хто бяжыць ад зла, падпадае пад зьнявагу. І Гаспад убачыў гэта, і агідна было вачам Яго, што няма суду" (Ісая, 59:14-16).*

Лік разводаў перавышае лік шлюбаў, кожнае чацьвертае дзіця нараджаецца па-за шлюбам, амаль кожны трэці мужчына схільны да алкагалізму, у адносінах паміж людзьмі пануюць злоба, хамства і хлусьня. Многія хрысьціянскія сьвятыні зьняважаныя, а хрысьціянаў караюць за малітву ля іх сьценаў. Цемра атэізму, неапаганства, бязглуздага спажывецтва, агрэсіўнага эгаізму ахутала краіну.

Аднак, *"шмат можа ўзмоцненая малітва праведнага" (Якуба, 5:16).* Менавіта Госпад, сапраўдны Творца гісторыі, можа даць Сваю, так неабходную нам дапамогу, – калі знойдуцца верныя, гатовыя стаць цьвёрда ў малітве за сваю краіну.

Для гэтага ***давайце разглядаць кожную пятніцу як дзень усеагульнага зьмірэньня, паста і малітвы.*** У гэты дзень, штопятніцы, а 20.00 вечара зьвернем нашыя сэрцы да Магутнага Бога і ў адзінстве ўзьнясем малітвы аб міласьці і ласцы для нашай нацыі. Прадметам нашых асаблівых, найбольш старанных малітваў мусяць стаць просьбы аб тым, каб праўда і справядлівасьць узялі верх на нашай зямлі, а ўсялякае беззаконьне было пасаромлена.

Нашае грамадзтва стамілася ад бязьвер'я, абыякавасьці і страху. Мы хочам, каб стандартам чалавечых узаемадачыненьняў – ад найвышэйшых уладаў да самых бедных і непрыкметных грамадзянаў – стала ўзаемная павага, еднасьць у Духу Сьвятым, а арыенцірам – Дзесяць Прыказаньняў Божых, правераных часам і гісторыяй.

Таму мы прапануем усім людзям, вернікам розных канфэсіяў, праводзіць гэты дзень згодна з прынятымі формамі іх веравызнаньня, каб аб'яднаная наша малітва была пачутая Госпадам і прынесла дабраславеньне, ісьціну і свабоду ў нашу краіну.

Як напісана ў Слове Божым: *"Калі зьмірыцца народ Мой, які называецца імем Маім, і будуць маліцца, і пачнуць шукаць аблічча Майго, і зьвернуць з кепскіх шляхоў сваіх, дык Я пачую з нябёсаў і прабачу грахі іхныя, і ацалю зямлю іх" (2 Кніга Хронік, 7:14).*

**Будзем маліцца за Беларусь!**

**айцец Ян МАЙСЕЙЧЫК**, *грэка-каталік*
**пастар Эрнэст САБІЛА**, *евангельскі хрысьціянін*
**прапаведнік Юры СЬМІРНОЎ**, *евангельскі хрысьціянін*
**пастар Андрэй СІДАР**, *евангельскі хрысьціянін*
**бр. Аляксандар ПІСАРУК (OFM)**, *каталік*
**бр. Пётра РУДКОЎСКІ (OP)**, *каталік*
**бр. Апалінар НІКАЛАЕЎ (манах-рэдэмптарыст CSSR)**, *грэка-каталік*
**бр. Зьміцер ЧАРНЕЛЬ (манах-рэдэмптарыст CSSR)**, *грэка-каталік*
*і інш.*

*P.S.: Зарэгістраваўшыся на сайце **www.zabelarus.info**, кожны можа пацьвердзіць сваё далучэньне да штопятнічнай Малітвы за Беларусь.*

# Мір і духовае сяброўства

(Малітва за БГКЦ у італійскіх дыяцэзіях)

У траўні і чэрвені 2006 году ў некаторых рыма-каталіцкіх дыяцэзіях Італіі праходзіла своеасаблівая "духовая эстафета малітвы" за Беларусь, а асабліва за Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву. Эстафету малітвы арганізавалі італійскія прыяцелі нашае Царквы, якія да ўдзелу ў ёй запрасілі Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыта Сяргея (Гаека).

13 траўня Архім. Сяргей узначаліў малітву за БГКЦ у горадзе Балоньня, а 14 траўня – у горадзе Бэлюна (Паўночная Італія). У гэтай малітве ўдзельнічаў таксама а. Андрэй Сідаровіч, грэка-каталіцкі душпастыр з Воршы. Малітва ў горадзе Бэлюна праходзіла ў рамках рэгіянальнага Дня Маці, які для шматлікіх украінак, што працуюць у гэтым рэгіёне, арганізавалі душпастыры УГКЦ пад кіраўніцтвам а. Марыюша Міхаліка з гораду Падуа. Гэта была добрая нагода для сумеснай малітвы за ўкраінскія і беларускія маці, за іхнюю службу Царкве і грамадзтву.

20-21 траўня малітва за Беларусь і БГКЦ была арганізаваная Каталіцкай Супольнасьцю *"Primavera"* ў сталіцы выспы Сардынія – горадзе Кальяры. З гэтае нагоды Архім. Сяргей склаў візіт Архібіскупу Кальяры і падзякаваў за гасьціну, якую беларускім дзецям аказваюць жыхары Сардыніі.

Асаблівае значэньне мела малітва за БГКЦ у рамках г. зв. Сьвята Запавету, арганізаванага Каталіцкай Супольнасьцю "Шалом" 10 чэрвеня ў горадзе Рыва дэль Гарда (дыяцэзія Трэнта). На запрашэньне архібіскупа дыяцэзіі Трэнта (Трыдэнт) Уладыкі Луіджы Брэсана ў сьвяце ўдзельнічалі між іншымі Уладыка П.Раміджус – біскуп дыяцэзіі Кумбаконам у Індыі і Архім. Сяргей Гаек, які сказаў сьвяточнае казаньне.

Супольнасьць "Шалом" вельмі зацікаўлена ў разьвіцьці супрацоўніцтва з БГКЦ на полі міжканфесійнага дыялогу і паяднаньня, сяброўства і духовай адукацыі сем'яў.



• *Рыва дэль Гарда (Італія), 10.06.2006. Ганаровыя госьці на сьвяце Супольнасьці "Шалом". У цэнтры: Архім. Сяргей Гаек, Архібіскуп Луіджы Брэсан, Біскуп П.Раміджус.*

*"Памятаючы пра тое, што людзі розных рас, нацыянальнасьцей і народаў зьяўляюцца адной сям'ёй, молімся за свабоду і пашану годнасьці кожнага чалавека, асабліва ў тых краінах, дзе парушаюцца і абмяжоўваюцца грамадзянскія правы – каб ніхто не цярпеў ад прымусу, дыскрымінацыі і прычыненай крыўды."*

*Малітоўная просьба, якая прагучала па-беларуску падчас сьв. Імшы, адслужанай Папам Рымскім Бенядыктам XVI у Варшаве 26.05.2006.*



• *Бэлюна (Італія), 14.05.2006. Дзень Маці ў Італіі. Архім. Сяргей Гаек і а. Андрэй Сідаровіч (на фота – зьлева) з украінскімі сьвятарамі падчас малітвы за беларускія і ўкраінскія сем'і.*

# Экуменічная сустрэча пад патранатам сьв. Мікалая

У паўднёва-італійскім горадзе Бары 17-19 лютага 2006 году праходзіла міжнародная экуменічная духоўная Канферэнцыя, арганізаваная Каталіцкай Супольнасьцю Comunita di Gesu. З Беларусі ўдзельнічалі ў ёй марыяне архім. Сяргей Гаек і а. Вячаслаў Пялінак, якія гаварылі на Канферэнцыі пра Расіцкіх мучанікаў.

Амаль у той самы час, 19-20 лютага 2006 году, горад Бары наведваў Найдастойны Мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт, каб пакланіцца мошчам сьвятага Мікалая, што захоўваюцца тут у базыліцы, якой апякуюцца айцы дамінікане.

Ужо пасьля Канферэнцыі, увечары 19 лютага, міжнародная і міжканфесійная група біскупаў, сьвятароў і вернікаў, якую узначаліў кіраўнік Супольнасьці Comunita di Gesu праф. Матэа Калізі і Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архім. Сяргей Гаек, наведала манастыр дамініканаў і сустрэлася там з Мітрапалітам Філарэтам. Наступнай раніцы экуменічныя госьці ўдзельнічалі ў Боскай Літургіі, якую на мошчах сьв. Мікалая служыў Уладыка Філарэт.

Гэтая духоўная сустрэча пад патранатам сьв. Мікалая была добрай нагодай, каб у духу братэрства асэнсаваць актуальныя заданьні разьвіцьця міжканфесійнага дыялогу.

# ДЫЯЛОГ БУДЗЕ АДНОЎЛЕНЫ?

***Старшыня Папскай Рады па справах Еднасьці хрысьціянаў кардынал Вальтар Каспэр аптымістычна ацэньвае перспэктывы дыялогу Каталіцкай Царквы з Расейскай Праваслаўнай Царквой, нягледзячы на наяўныя "сур'ёзныя праблемы".***

З аднаго боку, па меркаваньні кардынала, якое ён выказаў у інтэрв'ю італійскаму часопісу *"Famiglia Cristiana"*, прагрэс у стасунках з Масквой разьвіваецца павольна, "і было б нерэалістычна меркаваць, што тысяча гадоў схізмы могуць загаіцца ў адно імгненьне". Ёсьць "вялізныя" разыходжаньні ў багаслоўскіх, кананічных і царкоўных пытаньнях, асабліва ж у пытаньні прымату папы, адзначыў В.Каспэр.

У той жа час ён выказаў задавальненьне рашэньнем прадстаўнікоў абедзьвюх Цэркваў сустрэцца ў верасьні на афіцыйных перамовах для аднаўленьня багаслоўскіх дыскусіяў, у першую чаргу для абмеркаваньня пытаньня папскага прымату і статусу ўсходніх Цэркваў. Багаслоўскі дыялог паміж Расейскай Праваслаўнай Царквой і Каталіцкай Царквой быў перарваны ў 2000 годзе, калі абодва бакі не дайшлі да прыняцьця агульнага рашэньня на сустрэчы ў Балтыморы. "Цяпер мы зноў можам яго пачаць",– заявіў У.Каспэр.

Стасункі Рыму з іншымі праваслаўнымі Цэрквамі, па ацэнцы старшыні Папскай Рады па справах Еднасьці хрысьціянаў, разьвіваюцца па-рознаму. У гэтай сувязі кардынал зьвярнуў увагу на пераадоленьне "асобных істотных праблемаў" у стасунках з Грузінскай Праваслаўнай Царквой і ахарактарызаваў як "вельмі прыязны" дыялог з Сербскай Праваслаўнай Царквой, прадстаўнікі Сіноду якой рэгулярна сустракаюцца з каталіцкімі біскупамі.

В.Каспэр назваў таксама "вельмі важным для разьвіцьця экуменічнага дыялогу" запланаваны візіт Папы Бенядыкта XVI у Турцыю і сустрэчу з Канстанцінопальскім патрыярхам Барталамеем І.

***Протаярэй Мішэль Філіп Лярош належыць да Праваслаўнай Царквы (Archiprêtre de l'Église orthodoxe Michel Philippe Laroche). Гэты вядомы ўсходні багаслоў з Францыі зьяўляецца аўтарам кнігі "Малая Царква: Містычная прыгода шлюбу" ("Une Seule Chair: L'aventure Mystique Du Couple"). Ягоны артыкул, які тут прапануем (з невялікімі скарачэньнямі), быў надрукаваны ў польскім каталіцкім часопісе "W drodze". Спадзяемся, гэты матэрыял, які паказвае погляд усходняга багаслова на праблемы інтымнага жыцьця, якія часам паўстаюць у шлюбе, будзе карысны для многіх сужонкаў, а таксама зацікавіць тых, хто яшчэ толькі рыхтуецца да сямейнага жыцьця.***

**а. Мішэль Філіп ЛЯРОШ**

# ДУХОЎНЫЯ АСНОВЫ інтымнага жыцьця ў шлюбе

Цяжка распачынаць тэму інтымных адносінаў у шлюбе, не зірнуўшы найперш на ўсе зьвязаныя з ім перабольшваньні і замоўчваньні.

Згодна з праваслаўнай Традыцыяй, цялеснае ядnаньне мужчыны з жанчынай зьяўляецца адным з бачных знакаў яднаньня іх душаў. У шлюбе цялеснае пажаданьне перастае быць аўтаномным інстынктам, зьвязаным з першародным грахом, і становіцца знакам прывязанасьці да ўмілаванага сужонка.

Асноўнае адрозьненьне паміж шлюбам і ўяўна свабоднай сувязьзю ў тым, што ў першым выпадку душа пануе над цялеснымі пажаданьнямі: "Хачу зьяднацца, каб кахаць". У другім выпадку пажаданьне кіруе душою: "Гэты мужчына альбо гэтая жанчына мне падабаецца. Прагну яе (альбо яго)". Гэткае яднаньне не прымае ўвогуле глыбокай духовай сувязі, у якой разьвіваецца і выражаецца поўня асобы. Сучасны тэрмін "прыгода" добра акрэсьлівае гэтую форму паяднаньня і яго часовы характар.

Жадаючы правільна падысьці да праблемы сэксуальных стасункаў у шлюбе, належыць зьвярнуцца перш-наперш да апостальскай і патрыстычнай думкі (сьв. Айцоў з III-VIII стагоддзя). Гэта дазволіць заняць нейкую пазіцыю адносна першай няяснасьці: ці маюць сэксуальныя стасункі ў шлюбе сваёй асноўнай і амаль адзінай мэтай пракрэацыю (працяг роду)?

Калі адказ на гэтае пытаньне будзе станоўчы, то тады сумеснае жыцьцё сужонкаў, якое адкідала б пракрэацыю, зьяўляецца грэшным альбо ў найлепшым выпадку ледзьве талеруецца (ледзьве не забараняецца). Інтымнае жыцьцё зводзіцца да "механізму" пракрэацыі, у якім усялякая спантанічнасьць забароненая, і кожная праява чуласьці – недазволена.

У Праваслаўнай Царкве цялеснае зьяднаньне цалкам зьяўляецца часткай таямніцы шлюбу: "Дай ім дасканалую згоду целаў і душаў",– просіць Царква свайго Госпада падчас удзяленьня сьв. Тайны. У той жа час гэтае зьяднаньне зьяўляецца адлюстраваньнем і знакам шлюбу.

Апостал Павел так піша пра гэта: "Шлюб ва ўсіх няхай будзе ў пашане і ложак без заганы" *(Габр 13, 4)*. Гэтыя словы падкрэсьліваюць асаблівую сьвятасьць шлюбу, ложак якога (ён сымбалізуе цялеснае зьяднаньне) – без заганы, без плямаў і чысты сам ў сабе. Як ужо сказана, цялеснае зьяднаньне ў навучы Праваслаўнай Царквы – гэта сапраўдная частка таямніцы. Яно не зьяўляецца, як пра гэта памылкова пісалі некаторыя, саромнай часткай шлюбу! Скажам гэта адназначна: яно прызначана ня толькі для "рэпрадукцыі". Гэтая механічная канцэпцыя зьяднаньня, у якой мужчына і жанчына былі б падчас стасункаў толькі "рэпрадуктарамі" — гарэзія! Яна адкідвае паяднаньне цела і душы, якое ёсьць цэнтрам таямніцы. Акт сужэнскай любові – гэта ікона ўзьнёслай таямніцы. Таму таксама і Апостал кажа, што ложак сужонкаў беззаганны.

Шлюб, як сьцьвярджаюць Айцы Царквы, завязваецца ня толькі для падтрыманьня роду людзкога, але таксама, і нават перадусім, для таго, каб мужчына і жанчына кіравалі свае цялесныя пажаданьні адзін да другога (сьв. Ян Залатавусны).

Пацьверджаньне гэтага можам знайсьці ў Апостала Паўла, які кажа: "Няхай кожны мае жонку", каб пажаданьне не даводзіла яго да распусты і чужаложства *(1 Кар 7, 2)*. Калі ж Апостал раіць вернікам шлюб, то не для таго, каб мелі шматлікае патомства, але каб мелі чыстае жыцьцё ў шлюбе.

Калі мужчына і жанчына яднаюцца ў шлюбе, то яны зьяўляюцца цалкам чыстымі. Вось для чаго сьв. Павел і Айцы называюць пазашлюбны цялесны акт – распустай. Сужэнская сьвятасьць супрацьстаўіцца распусьце. Таму шлюб не зьяўляецца школай разьвязанасьці, але наадварот, уцёкамі да сапраўднай чыстасьці. Такі самы сэнс маюць словы Апостала Паўла: "Каб аддаліць небясьпеку распусты, няхай кожны муж аддае належнае жонцы, падобна і жонка – мужу" *(пар. 1 Кар 7, 2)*. [...]

Сужэнскае ложа, якое ў праваслаўнай Традыцыі сымбалізуе цэласнасьць любоўнага акту, чыстае, як пра гэта ўсюды гаворыцца, і гэта пацьвярджае вартасьць эратызму сужонкаў.

Эгаізм жа азначае шуканьне заспакаеньня толькі сваіх жаданьняў. У Айцоў знаходзім заклік, каб падчас сэксуальных стасункаў была скіраванасьць на іншага: "Жонка не распараджаецца ўласным целам, але яе муж; падобна муж не распараджаецца сваім целам, але жонка" – гэта мова, пазбаўленая неяснасьцяў, нязвыкла простая і вобразная. Словы гэтыя паказваюць, што сапраўдны акт каханьня павінен быць перажыты ў адкрытасьці на іншую асобу, яны заклікаюць да пазнаньня яе, шуканьня яе шчасьця, а ня толькі эгацэнтрычнага заспакаеньня пажаданьня. Гэтыя словы паказваюць сужонкам дарогу ўзаемнага разьвіцьця. Вось жа можам бачыць, што гэтая праблема мае духоўную прыроду, а не цялесную. Гэткі падыход да іншага вынікае з цэласнага, а не частковага погляду, які зьвяртаем на яго.

Калі адкрытасьць на іншага чалавека будзе прысутнічаць ва ўсім жыцьці, тады зьявіцца яна таксама і ў інтымных стасунках. Але, калі сужонкі будуць эгаістамі ў сумесным жыцьці, як жа тады будзе магчыма дарэньне сябе ў акце любові?

Інтымнае жыцьцё зьяўляецца дакладным адбіткам усяго іхняга жыцьця. Трывалыя, шчасьлівыя інтымныя стасункі ёсьць аднача-сова пячаткай і знакам глыбокай еднасьці душаў. І гэта цалкам дазволена, каб кожны, кіруючыся жаданьнем паяднаньня з іншым, мог зрабіць яго шчасьлівым, пазнаючы яго цела.

Парады Айцоў Царквы датычаць жыцьця, якое бярэм у цэласьці, і не спыняюцца на ім самым, але скіраваныя на Хрыста.

Зрэшты, ня справа Царквы ўмешвацца ў інтымнае жыцьцё сужонкаў. Проста Царква нагадвае пра тое, чаму заўсёды вучыла Традыцыя. Сужэнства само павінна вырашаць свае праблемы перад Богам.

Калі Апостал кажа, што "цела жанчыны належыць мужчыну, а цела мужчыны – жанчыне" і дадае, што нельга пад выглядам пабожнасьці адмаўляць сябе іншаму без узаемапаразуменьня – дык гэтым ён скіроўвае нашую ўвагу на небясьпеку анёльскасьці (лічэньня сябе падобным да анёлаў).

Таму, калі адзін з сужонкаў ня хоча больш яднацца цялесна, то згодна з праваслаўнай Традыцыяй павінен у гэтым знайсьці паразуменьне з іншым.

Паводзіны такога роду маглі б прывесьці да зьнішчэньня сужонскай еднасьці, а ўрэшце падштурхнуць да здрады ня толькі сужонка, якому адмаўляецца сумеснае жыцьцё, але таксама да ператварэньня ў "сужонка-анёла". Бо той, хто жадае сам устрымлівацца ад цялесных стасункаў, часта будзе зазнаваць "уяўна духоўную любоў" у адносінах да кагосьці іншага. Такі "ўзьлёт" пачуцьцяў, час ад часу падвоены праз містычную экзальтацыю, ужо сам ёсьць здрадай.

Уласна гэта і хацеў падкрэсьліць сьв. Павел, даючы нам вышэйнапісаную перасьцярогу.

Зрэшты, у тым самым духу трымаецца і кананічнае права Праваслаўнай Царквы: "Калі біскуп, сьвятар, дыякан альбо іншы духоўны выракаецца сужонства, мяса альбо віна, не дзеля подзьвігу праўдзівай цноты, але пагарджаючы імі, забываючыся, што ўсё ёсьць вельмі добрае і што Бог, ствараючы чалавека, мужчыну і жанчыну стварыў разам, то тады няхай альбо выправіцца, альбо будзе пазбаўлены з духоўнага стану ці адкінуты з Царквы, бо блюзьнерыць гэткім чынам супраць Творцы. Гэтае самае датычыцца і сьвецкіх" (*51-ае Апостальскае правіла*). [...]

Прыведзены фрагмент кананічнага права выразна паказвае, што тое, што стварыў Бог, ёсьць добрае, а адмаўленьне гэтага праз пагарду, з прычыны пабожнасьці, у перспэктыве духоўнага жыцьця зьяўляецца цалкам памылковым.

Паводле Айцоў, шуканьне прыемнасьці ў зьяднаньні целаў ёсьць правамоцнае само ў сабе і не складае граху.

Аднак жа, калі Апостал піша, што не мужчына распараджаецца сваім целам, але жанчына, падобна як і не жанчына распараджаецца сваім целам, але мужчына, то паказвае на дзьве рэчы: па першае, што сужонак ня можа адмовіць сумеснага цялеснага жыцьця, калі другі гэтага прагне. І таксама другое, абавязковае для зраўнаважаньня так пастаўленай справы: адзін сужонак павінен думаць пра другога. Гэта значыць, яны павінны сумесна выбіраць адпаведны момант для зьяднаньня, калі абодва выказваюць унутраную гатовасьць і жаданьне.

Размова йдзе пра адзін з падставовых элементаў найбольш інтымнага жыцьця сужонкаў. Ён можа быць напоўнены прыгажосьцю і Божай ласкай, альбо наадварот, можа быць пазбаўлены гэтага.

У гэткім выпадку мы сустракаемся з недапушчальнай сэксуальнай тыраніяй. Парада Апостала датычыць выключна харызмы (асаблівага дару Ласкі) сужонства. А сэксуальны дэспатызм, калі адзін накідвае сваю волю другому без поўнага паразуменьня, выразна выходзіць па-за гэтую таямніцу.

Сэксуальная тыранія існуе таксама і тады, калі адзін з сужонкаў, заспакоіўшы сваё жаданьне, забывае пра існаваньне другога і не спрабуе давесьці яго да шчасьця.

Шлюб у сваім эратычным праяўленьні зьяўляецца чысты, калі ў харызматычнай любові праяўляецца дараваньне (дарэньне?) сябе і жаданьне другога. Але ў самім шлюбе можа дайсьці, уяўна нібы праз тыя самыя акты, да парнаграфіі, няпраўды альбо яшчэ горш – прастытуцыі.

Цялесны акт, перажываны як звычайная забава, а не як інтымны і эратычны выказ глыбокай любові, можа стацца грахом парнаграфіі. Зрэшты такое "зьяднаньне" толькі разьдзяляе сужонкаў, якія будуць шукаць па-за шлюбам альбо іншыя "забавы", альбо новае каханьне, якое зьнікла з іхняга жыцьця.

У сітуацыі, калі адзін стала адмаўляе другому ў сумесным інтымным жыцьці, часта можам мець справу з гіпакрызіяй. Яе сэнс у тым, што хоць і ня здраджваем сужонку фізічна, аднак ва ўяўленьнях ці марах з кожным разам усё больш аддаляемся ад яго. Маецца на ўвазе небясьпечная, фальшывая чысьціня, якая вядзе да тых самых нешчасьлівых наступстваў як і каханьне, якое разумеецца як "забаўка". Гэтыя ўяўленьні ня мусяць мець азнакі сэксуальнасьці, але могуць быць, напрыклад, уяўна-духоўным поцягам да кагосьці іншага, пра што мы ўжо ўзгадвалі. За гэткай "анёльскасьцю" часьцей за ўсё хаваюцца самыя небясьпечныя жарсьці.

Праблема, узятая ў поўні, тым больш складаная, бо наогул, як правіла, адзін з сужонкаў (пераважна мужчына, але не заўсёды) жадае сумеснага палавога жыцьця часьцей. І тут трэба выразна сказаць: сужонак, які хоча радзей мець цялесныя стасункі, неабавязкова больш чысты! Гэтыя справы амаль заўсёды зьвязаныя з прыродным парадкам, а не маральным.

Можа таксама здарыцца (хоць такія выпадкі вельмі рэдкія), што адзін з сужонкаў асягнуў стану большай узьнёсласьці. Але гэтая сітуацыя складае меншую праблему, бо сужонак, які сапраўды "адкінуў сьвет", кахае праўдзіва і будзе заўсёды кіраваны Духам Сьвятым, каб зьядначца без няслушных упярэджаньняў або скаргаў. Належыць памятаць пра тое, што ўстрымліваецца таксама і д'ябал, які ня мае цела, ды пра тое, што фальшывая чысьціня ды гаворка пра "духоўную слабасьць" іншага часта бываюць тлумачэньнем каханьня, якое згасае.

Як мы ўжо казалі, сама прырода найчасьцей спраўляе, што ў рытме пажаданьняў існуюць адрозьненьні. У гэтай сітуацыі патрэбна, каб той, хто часьцей адчувае жаданьне цялесных кантактаў, памятаў пра тое, што зьяднаньне павінна быць сустрэчай, сьвяткаваньнем глыбокай лучнасьці з іншым, а ня толькі звычайным заспакаеньнем інстынкту.

Гэтым зьяднаньнем заўсёды мусіць кіраваць Ласка Божая.

Вось жа таму прагненьне зьяднаньня павінна выказвацца як запрашэньне для другога, а не як абавязак. Можна ў малітве запытвацца, якая ёсьць воля Божая, і лепш, калі сужонкі памоляцца разам. Гэтыя словы некаторых могуць шакаваць і раздражняць. Але чаму воля Госпада не магла б прысутнічаць у акце, які для большасьці настолькі істотны, а наступствы альбо траўмы, якія могуць вынікаць з яго, калі ён нядобра перажыты, могуць быць так паважнымі? Да шуканьня волі Божай, што так істотна ў інтымным зьяднаньні, трэба падыходзіць таксама далікатна: воля Божая не вырашае (акрамя выключных выпадкаў, як напрыклад у Якіма і Ганны) аб моманце цялеснага акту, але выражаецца ў ім. Гэта азначае, што Бог бласлаўляе кожнае "зьяднаньне", калі яно адбываецца ў сапраўднай любові, паразуменьні і ўзаемным дараваньні (дарэньні?) сябе.

Узгадайма, што Праваслаўная Царква вымагае перад прыняцьцем Прычасьця не ўжываць ежы і, таксама, устрымлівацца ад інтымных стасункаў. З гэтага посту не вынікае пагарда да тых рэчаў, якіх выракаемся. Пост – гэта ахвяра з магчымасьцяў, якія пераступаем, каб узысьці на ўзровень больш узьнёслы.

Калі адзін з сужонкаў навязвае сваю волю – альбо жаданьне зьядначца, альбо фальшывую чысьціню – то аддаляецца ад волі Божай і ад таямніцы шлюбу.

Інтымнае зьяднаньне, у сваёй глыбіннай істоце, зьяўляецца школай выпрачэньня ўласнае волі дзеля любові да іншай асобы. На жаль, вельмі часта, асабліва ў мужчынаў, зьяднаньне бывае зьнішчаным, калі выяўляецца праз "некантраляванае" пажаданьне. Якое ж выкрыўленьне разуменьня любові і дараваньня сябе! Якое ж выкрыўленьне таямніцы! Гэтак можна літаральна згвалціць сужонка. Акты такога роду зьяўляюцца вельмі цяжкім грахом і могуць паважна скалечыць гэтую сувязь, ажно да яе поўнага зьнішчэньня.

Такім чынам той, хто "прагне часьцей", павінен сваё жаданьне не навязваць, але ахвяраваць іншаму. У ахвяру, у гэтым разуменьні, можа быць таксама ўпісана і магчымасьць адмовы. І наадварот, іншая асоба, памаліўшыся, можа сябе ахвяраваць, дзякуючы сіле любові, якую мае, у прыліве пачуцьцяў і чуласьці, у жаданьні дарыць сябе.

Інтымнае зьяднаньне ёсьць іншым разам бясспрэчным суцяшэньнем. Калі адзін з сужонкаў адчувае страх, перажывае цяжкія хвіліны, то ў гэты час можа адшукаць свой страчаны супакой у абліччы другога і ў зьяднаньні. Малітва, агульна кажучы, можа ня толькі папярэджваць, але наступіць і пасьля блізкасьці, таму што ў гэтым таямнічым акце мужчына і жанчына, якія мелі свае праблемы, праз узаемны, натхнёны дар сябе і праз адшуканае прагненьне, яднаюцца ў самым сэрцы харызматычнай еднасьці шлюбу. Яны яднаюць свае целы чыстым шляхам, парывам, што вынікае з еднасьці іх душаў, і іх душа хваліць Бога праз гэтую еднасьць, і малітва сужонкаў у такія часы можа быць сапраўды глыбокая. [...]

(Заканчэньне ў наступным нумары)

*Пераклад на беларускую мову*
**Алеся АЎДЗЕЮКА**

## ПАРАФІЯЛЬНАЕ ЖЫЦЬЦЁ

- Група вернікаў Івацэвіцкай грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Жыровіцкай напярэдадні сьвята Вярхоўных апосталаў Пятра і Паўла зьдзейсьніла 2-х дзённую пешую пілігрымку з Івацэвічаў у Жыровічы. Свой малітоўны намер пілігрымы вызначылі як падзяка за нашу Царкву. У пілігрымцы да Жыровіцкай сьвятыні ўдзельнічалі 7 вернікаў.
- Менская парафія Маці Божай Нястомнай Дапамогі 30 красавіка 2006 году презентавала грамадзкасьці свой праект – кампакт-дыск фотаэнцыклапедыі "Нашы касьцёлы", які зьяўляецца вынікам працы 76 фотамастакоў.
- Падчас сьвяткаваньня Сабору 12-ці Апосталаў ва Ўсходняй Калегіі, што ў г.Айхштэт (Нямеччына), славацкі грэка-каталіцкі біскуп Прэшаўскі Ўладыка Ян Бабяк, SJ паставіў семінарыста БГКЦ Алеся Аўдзеюка ў чытальніка, а затым – ў іпадыякана. З восені 2005 году А.Аўдзеюк, ураджэнец м. Дамачава Берасьцейскага р-ну, які скончыў механіка-матэматычны факультэт БДУ ў Менску, атрымлівае тэалагічную адукацыю ў Каталіцкім Універсітэце Айхштэт-Інгальштадт (Баварыя), пражываючы ва Ўсходняй Калегіі Айхштэту.
- Сьвятар БГКЦ Андрэй Крот, дактарант папскага тэалагічнага факультэту ў Варшаве, прыняў удзел традыцыйных Кірыла-Мятодаўскіх чытаньнях, якія ладзіць БПЦ. Ён выступіў у секцыі багаслоўска-гістарычных дасьледаваньняў з дакладам «Энцыкліка Бенядыкта XVI "Deus caritas est" – разуменьне сацыяльнага служэньня Царквы ў сучасным каталіцкім багаслоўі».

# Краевугольныя камяні Царквы

⇨ Заканчэньне са с.13

Пры засваеньні Адкрыцьця Божага магчыма няправільнае разуменьне Яго, ухіленьне ад праўды, памылкі, і таму яны выклікалі патрэбу абароны праўды ад скажэньня шляхам правільнага і дакладнага выясьненьня хрысьціянскай навукі. У гэтым і палягае негатыўны матыў разьвіцьця багаслоўя. У барацьбе з мноствам ілжэнавук Айцы абаранілі чысьціню дагматычнага сьветапогляду, процiпастаўляючы гарэзіям згоднае меркаваньне апостальскіх Цэркваў. Так паўсталі Царкоўныя догматы – веранавучальныя тэзісы, багаслоўскія думкі, абавязковыя для вызнаньня ўсімі членамі Царквы.

Для Айцоў догматы былі выразам навукі Госпада і апосталаў. Догматы не дадаюць нічога новага да Пісаньня, яны толькі выбіраюць фармулёўкі тых праўд, што запісаныя ў Бібліі. Яны зьяўляюцца аналізам ужо сказанага, ашчадным захаваньнем веры, якую Хрыстос перадаў апосталам і праз іх – Царкве. Калі дагматычныя навукі заходзілі ў вялікія крызісы, Паўсюдная Царква выбіралася з іх, вяртаючыся да керыгмы, да простых фармулёвак Пераданьня.

У пазнаньні розумам Божага Адкрыцьця магчымы дзьве крайнасьці: залішні рацыяналізм, які "забіваў" багаслоўе непамернай прэтэнзіяй абмежаванага розуму, і фідэізм (прыняцьце ўсяго на веру і адмаўленьне магчымасьці розумам аналізаваць Адкрыцьцё), які нёс недапушчальную вузкасьць. Сьв. Айцы засталіся вернымі ўнутранаму ўніверсалізму Царквы (прынцыпу "залатой сярэдзіны"), прызнаючы навуковае багаслоўе. Яны імкнуліся ўспрымаць усю паўнату Адкрыцьця і суадносіць рацыянальныя веды з веравызнаўчай сьвядомасьцю; значыцца, спачатку "слуханьне" і "вызнаньне" веры, а ўжо пасьля – яе тлумачэньне, якое заўсёды застаецца таямнічым. Дагматычная думка Айцоў заключаецца, перш за ўсё, у інтуітыўным спасьціжэньні Праўды, у яе тлумачэньні пад узьдзеяньнем Сьвятога Духа. Такое спасьціжэньне папярэднічае ўсякаму сьпекуляцыйнаму (разумоваму) тлумачэньню. Гэтая інтуіцыя (так званае "правіла веры") чэрпае моц ня толькі з Сьвятога Пісаньня і Пераданьня, але і з жывой сувязі з Хрыстом у Літургіі, малітвы і служэньня іншым.

Айцы Царквы часта спасылаюцца на правіла веры. Функцыя Царкоўнага навучаньня палягае ў тым, каб вызначыць, наколькі багаслоўскія тэзы адпавядаюць правілу веры. Да дагматычных азначэньняў Айцы часта ўжывалі прынцып апафатычнага багаслоўя (гаварылі пра тое, чым Бог ня ёсьць). Хрысталагічны і трынітарны догматы перавышаюць законы логікі, таму розум можа ўспрыняць Бога толькі ў Яго звышпачуцьцёвай прысутнасьці. Абсалютная трансцэндэнтнасьць (непазнавальнасьць) Бога прыводзіць да таго, што самая глыбіня догмату застаецца схаванай ад чалавека, нашыя словы прыдатныя толькі да праяўленьняў Бога – Яго энэргіяў. Таму Айцы заўсёды вельмі асьцярожна вызнавалі догматы ў выразных фармулёўках. Яны стварылі антынамічную і сымбалічную, але надзіва дакладную мову догматаў. Догматы ў сваіх чалавечых словах толькі накрэсьліваюць Шлях, якім зьяўляецца Слова.

Вялікую каштоўнасьць мае для нас глыбокі асабісты духоўны досьвед Сьв. Айцоў. Багаслоўе для іх было не наборам ведаў пра Бога, а сулучнасьцю з Богам, асабістай сустрэчай чалавека з Жывым Богам. У разуменьні Айцоў багасловам зьяўляецца той, хто шчыра моліцца, бо пазнаць Бога можна толькі жывучы ў Ім. Багаслоў, як Божы вучань, не зьбірае разумовыя веды, а напаўняецца Богам, каб, атрымаўшы Яго, стацца тым, чым ёсьць Ён. Праўдзівае багаслоўе праз духоўнае ачышчэньне вядзе да абагаўленьня, прыпадабненьня да Бога. Пры гэтым, тэорыя і практыка павінны ісьці разам, жыцьцё багаслова павінна быць у дасканалай гармоніі з яго верай. Сьвятыя Айцы абапіраліся ня столькі на магчымасьці свайго розуму, колькі на веды, пабудаваныя ў цесным паяднаньні з Хрыстом, напоеныя малітвай і ўмацаваныя ласкай Сьвятога Духа.

Айцы Царквы фактычна стварылі літургічнае багаслоўе (гэта асабліва датычыцца Усходняй Царквы). Яны ня толькі тлумачылі Літургію для верных і катэхуменаў, яны яе выкавалі і перажылі праз цудоўную паэтычную мову багаслужбовай гімнаграфіі. Многія Сьв. Айцы былі мудрымі пастырамі сваіх супольнасьцяў, шчодрымі на справы міласэрнасьці, нястомнымі прапаведнікамі Евангельля. Іх багатая катэхетычная і гамілетычная творчасьць яшчэ чакае належнага асэнсаваньня. Сьв. Айцы рашуча адстойвалі Праўду веры, мужна прымалі цярпеньні ў выгнаньнях, мукі і сьмерць за Хрыста. Пры гэтым яны не былі нейкімі недасяжнымі звышлюдзьмі, кожны з іх меў сваю акрэсьленую індывідуальнасьць, свае схільнасьці і недахопы, асаблівасьці характару – яны былі жывымі людзьмі свайго часу і культуры.

Сьвятыя Айцы ў сваёй разнастайнай дзейнасьці сабралі вялікі каштоўны скарб Пераданьня, багаслоўя і хрысьціянскага досьведу для дагматычнага і літургічнага, духоўнага і сацыяльнага жыцьця Царквы. Калі мы цікавімся вытокамі хрысьціянства, каб зразумець сваю тоеснасьць і адрадзіць жыцьцё Царквы, нам варта ўважліва вывучаць сьвятаайцоўскую традыцыю. На нашым шляху да Хрыста мы знойдзем у Айцах Царквы надзейных спадарожнікаў, сяброў і заступнікаў.

**Васіль ЯГОРАЎ,**
*г.Магілёў*



*• Менск, 26.06.2006. Апостальскі нунцый уручае пастарал – сымбаль пастырскай улады – новаму Архіпастыру Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскупу Антону Дзямянку.*

# Новы Архіпастыр Менска-Магілёўскі

***14 чэрвеня 2006 г. прэс-служба Апостальскай Сталіцы паведаміла, што Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI прыняў прашэньне аб вызваленьні ад пастырскага кіраўніцтва Менска-Магілёўскай архідыяцэзіяй, якое падаў Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Сьвёнтак.***

Сьвяты Айцец прызначыў Яго Эксцэленцыю Антона Дзямянку, тытулярнага біскупа Лесьвійскага і дапаможнага Менска-Магілёўскага, Апостальскім Адміністратарам *sede vacante i ad nutum Sanctae Sedis* названай Мітрапалітальнай сталіцы.

У гэты ж дзень біскуп Дзямянка прыняў высокую пасаду, даручаную яму Сьвятым Айцом. Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Сьвёнтак, Менска-Магілёўскі архібіскуп на пенсіі, якому 21 кастрычніка гэтага году споўніцца 92 гады, працягне выконваць абавязкі Пінскага Апостальскага Адміністратара *ad nutum Sanctae Sedis*.

На XXIX Пленарным пасяджэньні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі, кардынал К.Сьвёнтак папрасіў вызваліць яго ад пасады Старшыні названай Канферэнцыі ў сувязі з тым, што ён ужо не зьяўляецца дыяцэзіяльным біскупам. (Займаць пасаду Старшыні Канферэнцыі Епіскапату могуць толькі дыяцэзіяльныя біскупы і тыя, хто прыраўнаныя да іх у правах згодна з юрыдычнай нормай Кодэкса Кананічнага Права.) Кардынал Казімір Сьвёнтак быў абраны Старшынёю на Устаноўчым Сходзе 11 лютага 1999 г. Цяперашні, трэці яго тэрмін, павінен быў скончыцца 11 лютага 2008 г.

На Пленарным пасяджэньні пасада Старшыні ККББ была даверана Яго Эксцэленцыі Аляксандру Кашкевічу, біскупу Гарадзенскаму, які да гэтага часу зьяўляўся Намесьнікам Старшыні. Ранейшая яго пасада цяпер даверана Яго Эксцэленцыі Ўладзіславу Бліну, біскупу Віцебскаму.

*Паводле Catholic.by*



***Я ведаю, што хрысьціяне сьвяткуюць свой Дзень анёла. Што гэта за дзень: калі мы ўзгадваем нашага анёла-ахоўніка ці сьвятога апекуна? Як вызначаецца дата, калі сьвяткуем Дзень Анёла?***

**Лідзія Ўладзіміраўна**

*г. Івацэвічы*

# Дзень анёла

У царкоўнай традыцыі вялікае значэньне мае шанаваньне сьвятых анёлаў-ахоўнікаў. Да анёла-ахоўніка мы зьвяртаемся ў нашых ранішніх і вячэрніх малітвах, называючы яго "апякуне мой сьвяты, дадзены ад Бога, каб ахоўваць мяне".

Пра існаваньне анёлаў аднадушна і ясна сьведчаць Біблія і Сьвятое Паданьне. Сьвяты Аўгустын піша, што па прыродзе яны – духі. Назва анёл жа (у перакладзе з грэцкага – "пасланы") – гэта функцыя гэтых істотаў. Анёлы – гэта бесьцялесныя духовыя істоты, якія маюць розум і волю: гэта асабовыя і несьмяротныя істоты. Сваёй дасканаласьцю яны пераўзыходзяць усе бачныя ствараньні. Са Сьвятога Пісаньня ведаем імёны некаторых анёлаў: Міхаіл, Габрыэль, Рафаэль. Гэтыя анёлы выконвалі асаблівыя Божыя заданьні (напрыклад, узгадайма сюжэт Дабравешчаньня). Некаторыя анёлы, якіх мы ўласна і называем ахоўнікамі, маюць заданьне апекавацца асобнымі людзьмі. Ад маленства і да скону жыцьцё кожнага чалавека цешыцца іх аховаю і заступніцтвам. Сьвяты Васіль Вялікі піша: "Кожны вернік мае каля сябе анёла як ахоўніка і пастыра, каб весьці яго ў жыцьці".

Аднак Царква – гэта ня толькі супольнасьць людзей і анёлаў, але, у першую чаргу, супольнасьць паміж людзьмі. Да часу другога прыйсьця Хрыста Царква знаходзіцца ў трох станах: частка вучняў Хрыста працягвае сваю зямную пілігрымку; частка — пасьля сьмерці праходзіць ачышчэньне, а частка ўжо цяпер сузірае Бога твар у твар. Паміж гэтымі часткамі не перапыняецца супольнасьць, наадварот, яна ўмацоўваецца праз абмен духовым дабром. Напрыклад, праз нашую малітву за памёрлых.

Некаторых хрысьціянаў Царква далучыла да ліку сьвятых, гэта значыць урачыста засьведчыла, што яны гераічна трымаліся шляху цнотаў і жылі ў вернасьці ласцы Божай. Дзякуючы таму, што яны ўжо цяпер бліжэй злучаныя з Хрыстом, яны могуць умацоўваць Царкву ў сьвятасьці. Яны няспынна заступаюцца за нас перад Айцом, прыносячы Яму ў дар свае заслугі, якія прыдбалі на зямлі праз адзінага Пасярэдніка паміж Богам і людзьмі, Хрыста Ісуса. Сьвятыя захоўваюць еднасьць з тымі, хто жыве на зямлі, – яны няспынна моляцца за нас.

Кожны каталік (і праваслаўны) мае свайго сьвятога апекуна. Звычайна – гэта сьвяты, імя якога чалавек носіць. (Але можа быць і анёл, напрыклад, сьвяты арханёл Міхаіл – у Міхася і Міхаліны, арханёл Габрыэль – у Гаўрылы і Габрыэлы, арханёл Рафаэль – у Рафаэлы, Рафала й Рафаэля).

Такім чынам, кожны хрысьціянін мае двух нябесных апекуноў – анёла-ахоўніка і сьвятога, імя якога ён носіць.

Таксама трэба заўважыць, што раней імёны дзецям даваліся згодна з царкоўным календаром, у гонар таго сьвятога, чыя памяць адзначалася ў дзень нараджэньня альбо хросту дзіцяці. У часы камуністычнага бязбожніцтва гэты звычай перастаў захоўвацца. Больш за тое, тады людзі часам атрымлівалі новаствораныя, зусім нехрысьціянскія імёны, якія сымбалізавалі камуністычны дух эпохі: Акцябрына, Уладлен (вытворнае ад Уладзімір Ленін), Вілен (ад Уладзімір Ільіч Ленін), Кім (ад Камуністычны інтэрнацыянал моладзі) ды інш. Сёньня чалавек, што прыходзіць у Царкву, можа й сам абраць сабе ў якасьці апекуна любога сьвятога, які па нейкіх прычынах стаў яму асабліва блізкі. Нямала людзей хрысьціліся толькі ў дарослым ўзросьце. Яны могуць абраць сабе ў якасьці апекуна таго сьвятога, памяць якога адзначалася ў дзень іх хросту. І гэта будзе іх Дзень анёла.

Бывае таксама, што ў чалавека імя, якое ў царкоўным календары маюць некалькі розных сьвятых. Напрыклад, з імем Андрэй ёсьць сьв. апостал Андрэй Першапакліканы, сьв. Андрэй Крыцкі, сьв. Андрэй Канстанцінопальскі, сьв. Андрэй Баболя і інш. Іх памяць сьвяткуецца ў розныя дні году. Звычайна сьвятым апекуном становіцца той сьвяты, які па царкоўным календары найбліжэй да дня нараджэньня чалавека з гэтым імем, але ён можа выбраць таксама й любы іншы дзень памяці сьвятога з гэтым імем.

Такім чынам, нашымі "імянінамі", альбо Днём анёла, будзе дзень царкоўнага ўспаміну гэтага сьвятога.

**а. Андрэй КРОТ**

***• Архірэйская Літургія ў навіцыяце ўсходняга абраду Таварыства Ісуса ў Альбярціне (1932 г. ?).***



Grande Liturgia Pontificale

*nel noviziato di rito orientale della Compagnia di Gesù in Albertyn (Polonia), celebrata da S. E. Mons. Nicola Czarneckij Redentorista, Vescovo tit. di Lebedo, Visitatore Apostolico per gli Slavi di rito bizantino, fuori delle diocesi unite, in Polonia.*

*Унікальнасьць гэтага міжваеннага фотаздымку, выпадкова знойдзенага ў італійскім часопісе "Il Mondo cattolico illustrato" за 1933 год, у тым, што на ім бачым беларускага езуіта айца Антона Неманцэвіча, будучага Экзарха Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі.*

*Да сёньняшняга дня, на жаль, практычна не захаваліся фотаздымкі айца А.Неманцевіча. А на гэтым ён да таго ж ва ўсходняй літургічнай вопратцы (якраз у гэты час а. А.Неманцэвіч быў парахам Альбярцінскай парафіі). Будучы Беларускі Экзарх на фота стаіць у групе зьлева, каля алтарнага абраза, адразу за Ўладыкам Мікалаем Чарнецкім, тагачасным Апостальскім Візітатарам для католікаў славянавізантыйскага абраду на Валыні, Падляшшы і Палесьсі. Поруч з біскупам Мікалаем Чарнецкім – айцец протаігумен Уладзімір Пянткевіч з Усходняй Місіі Айцоў Езуітаў у Альбярціне. За ім зьлева – выдатны беларускі сьвятар а. Вячаслаў Аношка, душпастыр уніятаў на Століншчыне і Навагрудчыне, які пазьней стаў сябрам Рады Беларускага Экзархату ГКЦ.*

# НОВЫ СЬВЯТАР

## у Беларускай Каталіцкай Місіі ў Лондане

***14 траўня 2006 году ў Лондане быў высьвячаны на дыякана Сяргей Стасевіч – гадунец Папскай Грэцкай калегіі ў Рыме.***

Сяргей Стасевіч нарадзіўся ў 1978 годзе ў Івацэвічах на Берасьцейшчыне. Падчас студыяў у БДУ далучыўся да Каталіцкай Царквы, практыкаваў у грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў Менску. Пры падтрымцы рэктара Беларускай Каталіцкай Місіі ў Лондане а. Аляксандра Надсана ён быў прыняты ў Грэцкую калегію ў Рыме, дзе і праходзіў фармацыю да сьвятарства. Сяргей Стасевіч атрымаў ступень бакалаўра тэалогіі на Папскім Універсітэце сьвятога Тамаша Аквінскага "Анджэлікум" у 2004 годзе.

Урачыстыя абрады распачаліся днём раней падчас адведваньня Беларускай Каталіцкай Місіі ў паўночным Лондане Паўлам Хамныцкім *OSBM*, біскупам Стэмфардзкім (Украінская Каталіцкая Царква ў ЗША). Уладыку Паўла сардэчна вітаў а. Аляксандар Надсан – Апостальскі Візітатар для беларусаў-каталікоў у замежжы. У звароце да прысутных а. Аляксандар Надсан зазначыў, што сьвятарскія сьвячаньні Сяргея Стасевіча, што маюць адбыцца, – гэта асаблівa радасная і важная падзея, чакаць якой у Лондане давялося блізу 25 гадоў. У беларускай грэка-каталіцкай царкве сьв. Пятра і Паўла Сяргей Стасевіч атрымаў ад біскупа Паўла сьвячаньні ў чытальніка і субдыякана.



*• 14.05.2006, Лондан (Англія). Уладыка Павел Хамніцкі ўдзяляе дыяканскія сьвячаньні Сяргею Стасевічу.*

У нядзелю, 14 траўня 206 году, у лонданскай украінскай катэдры Сьвятое Сям'і на Выгнаньні біскуп Павел Хамныцкі ўзначаліў прынагодную сьв. Літургію, удзел у якой узяў таксама а. Аляксандар Надсан, а пэўныя часткі набажэнства гучалі пабеларуску. У часе гэтай літургіі біскуп Павел рукапаклаў Сяргея Стасевіча на дыякана. У звароце да вернікаў украінскай катэдры і шматлікіх гасьцей з беларускай грамады Уладыка Павел сказаў, што Украінская Царква працягнула руку братняй дапамогі беларускім грэка-каталікам, якія дагэтуль ня маюць уласнага біскупа ані ў Беларусі, ані ў замежжы. Ён павіншаваў айца дыякана С.Стасевіча са сьвячаньнямі і дадаў, што наступнымі крокамі стануць высьвячаньне дыякана Сяргея на прасьвітара, а некалі, магчыма, і на біскупа – для духоўнага служэньня беларусам у замежжы і на Бацькаўшчыне.



Пасьля набажэнства айца дыякана Сяргея Стасевіча ды айца Аляксандра Надсана на прыступках катэдры сустракала і шчыра віншавала беларуская грамада. Прадстаўнікі беларускай грамады ў Вялікабрытаніі таксама сардэчна дзякавалі Уладыку Паўлу за яго разуменьне духоўных патрэбаў беларусаў і чынную дапамогу. У размове з біскупам намесьнік старшыні Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі Мікалай Пачкаеў зазначыў, што значэньне высьвячаньня новага беларускага сьвятара ў Вялікабрытаніі – гэта падзея, духоўны сэнс якой сягае далёка па-за межы ўласна супольнасьці беларускіх каталікоў у гэтай краіне.

**Антон ЗАПАЛОТА**



**Царква**
*грэка-каталіцкая газета*
*№ 2 (49), 2006*
29 чэрвеня

**Адрас рэдакцыі:**
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасьце (Брэст)
Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82
**e-mail: bgkc_carkva@tut.by**

**Выдавец:** Грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў г.Берасьці
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 10.04.2006 г.
**Галоўны рэдактар:** а. Ігар КАНДРАЦЬЕЎ,
**Царкоўны асістэнт:** а. Андрэй СІДАРОВІЧ (MIC)
**Адказны рэдактар:** а. Андрэй КРОТ, STM
**Выпускны рэдактар:** Ігар БАРАНОЎСКІ
**Падпісана ў друк:** 29 чэрвеня 2006 году, а 23-30
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (ЛП № 02330/0131540 ад 30.04.04), вул.Мініна, 23-106. 220014 г.Менск. **Замова № 122**
**Аб'ём** – 1.25 ул.-выд.аркушы. **Наклад** 1900 асобнікаў.

***НАШ РАХУНАК:***
***№ 3015200210017***
***у філіяле № 2/01 г.Берасьця***
***ЗАТ "Абсалютбанк",***
***МФО 150501242,***
***УНП 200558013***

*Кошт свабодны. Газета выдаецца і распаўсюджваецца за ахвяраваньні...*